



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

31 ліпеня 2015 года №31 **(1057)**



**Ці варта набываць спецыі без фабрычнай упакоўкі**

старонка 3

**Парады, якія выратуюць вам жыццё ў лесе**

старонка 4

**Месцаў для інвалідаў-кіроўцаў мала, але займаюць і іх**

старонка 5

**Новы праект замчышча Агінскага зноў схаваюць у шуфляду?**

старонка 6


# ВІКЕНЦІ

- Ездзіць на роліках
- Малюе
- Піша вершы
- Грае на мандаліне
- Робіць варэнне з дзьмухаўцоў
- Дорыць усмешку маладзечанцам


**Чытайце на 21-й старонцы**


Фота Настассі РОЎДЫ.


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Спецыялісты не раюць рабіць так на Нарачы: хадзіць па мелкаводдзі па-за межамі абсталяванага пляжа.

● АДПАЧЫНАК

# Ці свярбіць скура ў адпачывальнікаў на Нарачы

МЯДЗЕЛ

**Сёлета ў Нарачанскім краі пакуль фіксуецца больш выпадкаў цэркарыёзу, чым летась. Да возера Нарач далучылася і Мястра.**

Цэркарыёз, так званы "сверб купальшчыка", даўно непакоіць адпачывальнікаў на Нарачы. Яго пасля купання у асобных людзей выклікаюць лічынкі птушыных гельмінтаў – цэркарыяў. У месцах іх пранікнення скура становіцца чырвонай, з'яўляецца пачуццё смылення і свербу, неўзабаве з'яўляюцца высыпанні і пухіры. Праз некалькі дзён усе гэтыя сімптомы праходзяць.

У чэрвені у Нарачанскім краі са скаргамі на цэркарыёз звярнуўся адзін чалавек. За дзве дэкады ліпеня – 10 (з іх сем дзяцей і падлеткаў). Найчасцей людзі звярталіся ў дні, калі было спякотна. Для параўнання: летась на гэты час звярнуліся пяць чалавек.

Зразумала, гэтая статыстыка не адлюстроўвае поўную карціну. У ёй улічаныя толькі тыя, тыя хто звярнуўся да медыкаў. А некаторыя ж самі змагаюцца са свербам.

Калі раней выпадкі цэркарыёзу фіксаваліся на возеры Нарач, то у ліпені звярталіся таксама і тыя, хто пакупаўся на Мястры. Такіх было пяць чалавек.

## Купайцеся на абсталяваных пляжах

У 2013 годзе са скаргамі на цэркарыёз у раёне звярнуліся 19 чалавек, у 2014 годзе – 16.

А былі некалі гады, калі на Нарачы фіксавалася больш за 600 выпадкаў! Гэта было да таго, як пачалі выконваць рэкамендацыі навукоўцаў па змаганні з навалай. Яны параілі касіць трыснёг, адпужваць птушак, убіраць малюскаў, устанаўліваць на пляжах душы і пантоны ды іншае.

Памочнік паразітолага Мядзельскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Алена Тарасёнак** дае такія парады адпачывальнікам:

– Купайцеся на абсталяваных пляжах. Пазбягайце месцаў, што зараслі воднымі раслінамі. У ваду заходзьце з модульнай платформы (пантона) ці мосціка, бо найбольш лічынак-цэркарыяў збіраецца да глыбіні 70 сантыметраў. Лепш купацца часцей і нядоўга. Пасля купання абавязкова абмыйцеся пад душам. Калі ж яго няма, то трэба насуха абцерціся ручніком.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

# Навес у Еленцы пад пытаннем, дарогу ў Мойсічах падсыпалі

МАЛАДЗЕЧНА

**Адразу з дзвюма пытаннямі чытачы "РГ" звярнуліся ў рэдакцыю.**

Першае: ці зробяць навес над прыпынкам у вёсцы Еленка?

Другое: ці адрамантуюць цэнтральную дарогу ў вёсцы Мойсічы?

## Еленка

Яшчэ летась у кастрычніку жыхары вёскі Еленка звярталіся ў рэдакцыю са сваёй праблемай.

У вёсцы няма магазіна, да жыхароў прыязджае аўталаўка. Часам яе даводзіцца чакаць не пяць і не дзесяць хвілін.

На прыпынку стаіць адна лава. Добра, калі надвор'е сонечнае: можна пасядзець, пагрэцца. А калі дождж ці снег? Людзям няма куды хавацца.

– Летась мы накіроўвалі просьбу жыхароў у ДРБУ-195, – кажа старшыня Алёхнавіцкага сельсавета **Ганна Фурс**. – Магчыма, з-за недахопу сродкаў не ўключылі ў план. Цяпер на тэрыторыі сельсавета супрацоўнікі ДРБУ робяць капітальны рамонт дарогі на Радашкавічы, Алёхнавічы, Гарадок. Разам з гэтым у вёсках Старынкі і Токараўшчына будуць ставіць новыя прыпынкі.

Галоўны інжынер ДРБУ-195 **Андрэй Кісель** сказаў, што пытанне жыхароў Еленкі будзе разглядацца:

– Магчыма, не сёння, не заўтра, але мы будзем думаць, калі і як вырашыць праблему.

## Мойсічы

Як распавёў Андрэй Кісель, 16 ліпеня ў Мойсічах падрамантавалі цэнтральную дарогу. Рамонт зрабілі бюджэтны, але гэта тое, што было ў магчымасцях ДРБУ-195.

**Настасся РОЎДА.**

● ПАМЯЦЬ

# Пайшоў з жыцця мастак Васіль Лазоўскі

**25 ліпеня блізкіх Васіля Лазоўскага напаткала гора – ён памёр.**



У памяці сваякоў, сяброў, вучняў ён застанецца чалавекам, які быў бясконца аддана сваёй Радзіме. Свае пачуцці да роднага краю ён выказваў у карцінах. Часта звяртаўся да гісторыі Беларусі. Вельмі любіў сталіцу сучаснай Літвы – Вільню, прысвяціў ёй многа твораў. На карцінах перад вачамі быццам рэальныя паўстаюць вуліцы Вільні, архітэктурныя збудаванні.

Ён аддана любіў вучняў, адчуваў адказнасць за іх навучанне і сваю працу. Яго выхаванцы адчувалі гэта і адказвалі ўзаемнасцю. Цяпер сярод іх шмат мастакоў, архітэктараў, дызайнераў, аматараў жывапісу і мастацтва.

Васіль Міхайлавіч быў тонкім псіхолагам, адчуваў нячутныя для іншых струны чалавечай душы. Ён ніколі не рабіў, ды і не мог зрабіць камусьці дрэнна. Быў душой калектыву, прыхільнікам выстаў. Калі яго вучні абараняў дыплом, гэта заўсёды было святам і нечаканасцю для камісіі. Настаўнік падказваў незвычайныя рашэнні сваім выхаванцам.

Настаўнік, Дарадца, Мастак – усё з вялікай літары. Такім ён назаўсёды застанецца ў нашай памяці.

Васіль Лазоўскі нарадзіўся 62 гады таму ў вёсцы Татаршчызна на Маладзечаншчыне. Пасля заканчэння школы паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава. Пасля яго накіравалі ў сярэднюю школу выкладчыкам чарчэння і малявання ў пасёлак Нарач. Там ён працаваў два гады, пасля зноў вярнуўся ў Маладзечна.

Тут уладкаваўся ў майстэрню мастацкага фонду саюза мастакоў. І адначасова яго запрасілі выкладаць у дзіцячай мастацкай школе, дзе ён працаваў да гэтага часу. Васіль Лазоўскі ўдзельнік шматлікіх міжнародных, рэспубліканскіх, гарадскіх выстаў. Працаваў у напрамках нацюрморта, пейзажа, ствараў графічныя, філасофскія творы. Яго творы знаходзяцца ў розных краінах: Расіі, Германіі, Польшчы і іншых. Быў сябрам Саюза мастакоў Беларусі.

**Мастакі Маладзечна.**

● ЗНАХОДКІ

# Знайшлі магчымыя рэшткі падмурка старадаўняй прыстані

МЯДЗЕЛ

На возеры Мядзел прайшла падводная археалагічная экспедыцыя. Праводзілі яе дайвінг-цэнтр "Марскі пегас" і спецыялісты Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук.

Каля вострава Замак на дне знайшлі элементы каменнага мура. Камяні выкладзеныя на дне шчыльна і ўтвараюць прамы кут, прыкладна 5 на 15 метраў. Па папярэдняй ацэнцы спецыялістаў, гэта могуць быць рэшткі падмурка старадаўняй прыстані. Да якога часу адносіцца знаходка і яе прызначэнне, высвятляць падчас новай экспедыцыі. Яна намечана на восень.

Яшчэ на дне возера знайшлі рэшткі супрацьпяхотных загарод часоў Першай Сусветнай вайны. Зімой загароды пракладваліся па лёдзе, а вясной пасля раставання лёду яны танулі.

Пра ўсё гэта паведамілі ў дайвінг-цэнтры "Марскі пегас".

**Аддзел інфармацыі.**

СПАЖЫВЕЦ

# Ці варта набываць спецыі без фабрычнай упакоўкі

МАЛАДЗЕЧНА

**Якія прэтэнзіі маюць пакупнікі і што на іх адказваюць прадаўцы на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства.**

Маладзечанка **Тацяна Красоўская** працавала ў сферы гандлю 40 гадоў. Была па іншы бок прылаўка ад пакупніка. Цяпер апынулася на яго месцы і мае пэўныя заўвагі.

– Прадаўцы выкладваюць спецыі ў пакецікях, на якіх рэдка пазначаны тэрмін прыдатнасці. Хаця ў спецый, як і ў большасці прадуктаў, ёсць жорсткія нормы. Склад на пакецiку можа быць як зусім не напісаны, так і не цалкам. Прасіш паказаць фабрычную ўпакоўку, а там розныя хімічныя дадаткі. Можна сустрэць глютамат натрыю, хоць і дазволены для выкарыстання, але шкодны для здароўя. Ці гэта не падман пакупніка? І хто будзе правяраць вагу ўжо расфасаваных приправаў? Як праверыш, ці не падсыпалі яны туды чагосьці не таго?

## "Гэтыя спецыі ў пяць разоў танней і смачней"

У прадаўцоў на рынку свой погляд на фасаваныя прыправы. Асноўны аргумент, чаму гандляры не стануць падманваць пакупніка, – іх аўтарытэт. Маўляў, наўрад ці ў іх будуць добра ісці справы, калі яны пачнуць шукаць такую сумнеўную выгаду.

**– У нас спецыі ў пяць разоў танней, – упэўнівае гандляр Айдын. – І ў столькі ж разоў смачней. Больш за тое, іх можна панюхаць ці нават пакаштаваць.**

**Ганна** працуе на рынку ўжо 15 гадоў. Жанчына мае прыправы як фасаваныя, так і ў фабрычнай упакоўцы. Таму для яе не праблема дагадзіць любому пакупніку.

– Напрыклад, калі прыходзяць выбіраць карыцу, то прапаную фасаваную па 50 грамаў, у заводской упакоўцы і карыцу ў палачках, – расказвае прадавачка. – У фасаванай упакоўцы пакупнік можа адчуць пах, у заводской упакоўцы звычайна не заўсёды. Некаторыя выбіраюць прыправу, памацаўшы.

Жанчына адзначае, што раней на рынку не гандлявалі фасаванымі спецыямі, аднак трэба адпавядаць запытам пакупнікоў, ісці ў нагу з часам. Тым больш, што людзі ахвотна купляюць – яны нашмат таннейшыя, маюць больш прыемны пах і надзвычайны смак.

– На ўсе прыправы ў мяне ёсць сертыфікаты і накладныя, – адзначае Ганна. – Калі ў некага ўзнікаюць пытанні наконт якасці, паказваю дакументы. Аднак пакупнікі зрэдку патрабуюць іх. Купяць раз, спадабаецца, прыходзяць яшчэ.

Усе спецыі прыходзяць ва ўпакоўцы па кілаграме, іх расфасоўваюць па 50 грамаў – шмат за раз не купяць.

Калі жанчына бачыць, што прыправа няякасная, вяртае тавар назад.

– Нядаўна атрымала маяран, – расказвае Ганна. – А ў яго нязвыклы для гэтай прыправы колер, пах, нейкія драбінкі пяску ці што. Нават фасаваць не стала, патэлефанавала на прадпрыемства, дзе замаўляла, сказала, што такі тавар мне не падыходзіць. Узялі назад.

## На што глядзіць санстанцыя

Як распавяла загадчыца аддзела гігіены харчавання Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Таццяна Кугара**, калі ідуць праверкі гандляроў спецый, глядзяць на чысціню месцаў, сочаць, ці ёсць патрэбныя медыцынскія даведкі. Правяраюць усе неабходныя дакументы па якасці і адпаведнасці тавараў нормам.

На агульнай упакоўцы тавара мусіць быць маркіраваны ярлык, які павінен захоўвацца, пакуль не будзе распрададзены ўвесь тавар.

У прадаўца ў любы момант можна папрасіць паказаць гэты ярлык, каб прачытаць склад, праверыць тэрмін прыдатнасці тавару.

**Настасся РОЎДА, Галіна СІНІЦА.**




## Парады ад гандляркі спецыямі

Фота Настассі РОЎДЫ.

1. Для таго, каб прыгатаваць курыцу, жанчына раіць выкарыстоўваць прыправу "Мексіканскую" і не баяцца яе вастрыні.

Курыцу трэба шчодра намазаць прыправай, пакласці на некаторы час, каб курыца ўвабрала ў сябе пах. Потым пакласці ў рукаў для запякання і пячы ў духоўцы 20 хвілін – ні больш ні менш. Так курыца захавае сакавітасць.

Пасля курыцу выняць з рукава і паліць юшкай, якая выдзелілася падчас прыгатавання. Так ваша страва будзе больш смачная. Падчас запякання вастрыня прыправы сыходзіць.

2. Каб прыгатаваць шашлык, жанчына раіць выкарыстоўваць адпаведную прыправу. У ёй ёсць ягады ядлоўцу, цыбуля, спецыі. Мяса для шашлыку трэба абавязкова пакласці ў пакет і добра перамяшаць з прыправай. Пасля пакінуць на некаторы час, каб мяса пусціла сок, увабрала ў сябе пах спецый, пасля зноў памяшаць. Мяшаць мяса трэба да таго часу, пакуль не стане мяккай цыбуля. На наступны дзень можна гатаваць шашлык.

3. Для мяса, сала выдатна падыдзе сумесь перцу.

– Перац збіраюць па меры таго, як ён паспявае, – дзеліцца мудрасцямі прафесіі прадавачка. – Спачатку збіраюць чырвоны перац, потым белы, зялёны і чорны. Пасля ўсе перцы змешваюць.



ЛІЧБА НУМАРА

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

**22** лекавыя прэпараты з 800 у Старажытным Егіпце выраблялiся на аснове часнаку. Таксама ён з'яўляўся важнай часткай штодзённай дыеты многіх егіпцян.

Паводле кнігі Ежы Лютомскага "Часнок вядомы і невядомы"

| Курсы валют НБ РБ | 23.07 | 30.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 197,00 | **15 212,00** |
| Еўра | 16 615,00 | **16 816,00** |
| Злоты | 4 011,93 | **4 076,65** |
| Расійскі рубель | 266,51 | **254,22** |
| Грыўня | 689,34 | **688,25** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 29.07** | | |
| Еўра | 16450/16680 | **16650/16850** |
| Долар ЗША | 15150/15300 | **15150/15300** |

Цэны на рынку (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 22.07 | 29.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53800 | **53800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **29400** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 85000 | **85000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37800 | **37300** |
| Селядзец, 1 кг | 54000 | **54000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118000 | **118000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12000 | **12000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 19000 | **19000** |
| Маянэз, 200 г | 4900 | **4900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 37000 | **37000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 9500 | **8500** |
| Капуста, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Морква, 1 кг | 14900 | **12000** |
| Буракі, 1 кг | 6000 | **5000** |
| Лімоны, 1 кг | 38000 | **36900** |
| Апельсіны, 1 кг | 26500 | **24900** |
| Мандарыны, 1 кг | 29500 | **29900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29000 | **35000** |
| Ківі, 1 кг | 39500 | **39000** |
| Нектарыны, 1 кг | 28500 | **24500** |
| Абрыкосы, 1 кг | 24900 | **26900** |
| Чарэшні, 1 кг | 39000 | **34900** |
| Памідоры, 1 кг | 14900 | **14900** |
| Агуркі, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Перац, 1 кг | 13000 | **13500** |
| Вінаград, 1 кг | 32500 | **34500** |
| Бананы, 1 кг | 15500 | **16500** |
| Кавун, 1 кг | 5000 | **6000** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 10000 | **12000** |
| Яблыкі, 1 кг | 16500 | **16500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24900 | **29500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 6900 | **6900** |
| Сала, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |



Фота gribnik-rossii.ru.

Не збірайцеся ў лес у адзіночку. Гэта заўсёды фактар павышанай небяспекі.

МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Парады, якія выратуюць вам жыццё ў лесе

МАЛАДЗЕЧНА

**За леташні ягадна-грыбны сезон на Маладзечаншчыне заблудзілася 20 чалавек. Лясы прачэсвалі міліцыянеры, выратавальнікі, ляснікі, сваякі. Усіх зніклых знайшлі.**

У лясах гублялі арыенціроўку не толькі прыезджыя, але і дасведчаныя мясцовыя жыхары, нават вясковыя ветэраны грыбнога і ягаднага палявання.

Міліцыя рэгулярна паведамляе праз СМІ, як паводзіць сябе ў лесе. А самая галоўная парада: не ведаючы лесу, не ідзіце ў яго далёка.

Лета зноў прынесла свае дары, і па іх зноў ідуць жыхары.

**Паводле статыстыкі, у Мінскай вобласці штогод рэгіструюць каля 2,5 тысяч заяў аб знікненні людзей. Сярод іх сто грамадзян, якія зніклі, збіраючы грыбы ці ягады.**

Сёння зніклых ў лясах лічацца 50 чалавек.

Абставіны знікнення бываюць розныя: хтосьці заблудзіўся, з іншым адбыўся няшчасны выпадак. Вынікі таксама бываюць розныя. Некаторыя ў вышуку некалькі месяцаў і год. Часам знаходзяць не жывога чалавека, а ўжо толькі цела. Але перадгісторыя ўсіх такіх выпадкаў аднолькавая: чалавек ідзе ў лес, не ўлічыўшы магчымых праблем, не прыняўшы мер бяспекі, не ўмеючы правільна арыентавацца ў надзвычайнай сітуацыі, паводзіць сябе празмерна самаўпэўнена.

З лесам жартаваць няварта. Асабліва з такімі вялікімі, як у Маладзечанскім, Валожынскім, Вілейскім раёне.

### Як арганізаваць бяспечны паход у лес

1. Не збірайцеся ў лес у адзіночку. Гэта заўсёды фактар павышанай небяспекі. Можна сустрэць чалавека з кепскімі намерамі, дзікага звера, страціць прытомнасць, атрымаць траўму, а памагчы не будзе каму.

2. Нельга сыходзіць далёка ад прыкметных арыенціраў (дарога, рака, лінія электраперадач, вышка, вырубка). Імкненне адысці яшчэ крыху далей, за ягадкай, што ў гушчар вабіць, можа завесці вельмі далёка.

3. Абавязкова вазьміце з сабой цалкам зараджаны мабільны тэлефон, праверце баланс на рахунку. Нумар адзінай службы МНС 101 можна набраць і калі на рахунку няма грошай. Вазьміце з сабой вады, ежы, ліхтарык, запалкі, нож, карту. Вельмі патрэбная рэч – компас.

4. Апраніце яркае заўважнае адзенне.

5. Абавязкова скажыце сваякам ці суседзям, куды вы ідзяце і дзе, як мяркуеце, будзеце знаходзіцца. Гэта можна вызначыць па нескладаных прыкметах. На ствалах бяроз больш цёмных плямаў і больш цёмная афарбоўка з паўночнага боку. З гэтага ж боку расце мох на камянях. На ліставых дрэвах з паўночнага боку мох больш густа пакрывае дрэва.

З паўднёвага боку на хвойных дрэвах назапашваецца больш смалы.

**Бакі гарызонту можна вызначыць па лясных прасеках. Лес падзелены імі на кварталы, якія нумаруюць ад захада на ўсход і ад поўначы на поўдзень.**

Першы нумар ставяць ў паўночна-заходнім куце, апошні – у паўднёва-ўсходнім. На скрыжаванні прасек ставяць квартальныя слупы. Іх верхняя частка счасаная. На кожнай грані напісаны нумар супрацьлеглага ёй квадрата. Рабрына паміж двума найменшымі лічбамі паказвае на поўнач. Але прасекі часам высякаюць, не суадносячы з бокам гарызонту.

### Калі вы заблудзіліся

1. Калі можаце вярнуцца па сваіх слядах (не наўздагад!), то трэба так і зрабіць. Ні ў якім выпадку не зразайце вуглы, не скарачайце дарогу. Толькі па слядах!

2. Калі не можаце вярнуцца па слядах, заставайцеся на месцы, паведаміце, дзе вы заблудзіліся, назавіце заўважныя арыенціры каля вас і чакайце дапамогі. Беражыце батарэю ў тэлефоне.

Некаторыя людзі, заблудзіўшыся, працягваюць рух і не спяшаюцца паведаміць, што заблудзіліся. Гэта самая вялікая памылка.

Мясцовасць падманлівая, асабліва балоцістая. Пейзажы падобныя, а чалавек пачынае панікаваць.

Жадаем паважаным чытачам не губляцца! Няхай вашы кошыкі будуць поўныя, а самі вы заставайцеся ў бяспецы.

**Юры КАБАКОЎ,**
**першы намеснік начальніка Маладзечанскага райаддзела міліцыі, начальнік крымінальнай міліцыі.**



КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Каля Старога Места забілі 50-гадовага мужчыну

МАЛАДЗЕЧНА

**У міліцыю прыйшла 45-гадовая жанчына і сказала, што гэта зрабіла яна.**

Яна прыйшла ў міліцыю раніцай у панядзелак, 20 ліпеня, распавёў "РГ" следчы Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

Цела мужчыны са шматлікімі цялеснымі пашкоджаннямі знайшлі на перакрыжаванні вуліцы Багдановіча і першага завулка Янкі Купалы.

Цягам дня крымінальны вышук РАУС знайшоў яшчэ трох падазраваных у забойстве.

Яны затрыманыя.

Узбуджаная крымінальная справа. Вядуцца следчыя дзеянні.

Вызначаюць ступень удзелу падазраваных у забойстве.

**Настасся РОЎДА.**

## Накраў, што трапілася пад руку, і спаліў

ВАЛОЖЫН

**43-гадовы жыхар Мінскага раёна паехаў на Валожыншчыну ў вёску Багушоўка на заробкі – прыбіраць у доме.**

Застаўся начаваць, выпіў, п'яным залез у дом і накраў усяго, што траплялася пад руку. Агулам на два мільёны рублёў. Узяў нават лекі.

Потым усё накрадзенае паляцела ў агонь, ім жа распалены.

Псіхіятрычная экспертыза паказала, што мужчына не ўсведамляў свае дзеянні, распавёў "РГ" следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта **Ілля Глінскі**.

Учора, 23 ліпеня, справу перадалі пракурору для накіравання ў суд.

У адносінах да абвінавачанага хочуць прымяніць меры прымусовага лячэння.

Выпадак адбыўся сёлета ў маі.

**Настасся РОЎДА.**

## Перайшлі мяжу, каб трапіць на фестываль

АШМЯНЫ

**27 ліпеня на памежнай тэрыторыі ў літоўскім і польскім накірунках затрымалі двух грамадзян Грузіі і двух грамадзян Кубы.**

Выхадцаў з Каўказа памежны атрад спыніў у чатырох кіламетрах ад лініі беларуска-літоўскай мяжы. Яны патлумачылі, што даехалі на спадарожным транспарце да пункта пропуску "Каменны Лог", далей накіраваліся ў бок Вілейкі, каб трапіць на фестываль.

Таксама ў памежнай зоне ў прыдарожнай гасцініцы без дазволеных дакументаў знаходзіліся кубінцы. У аднаго з іх не было міграцыйнай карты.

Парушальнікаў даставілі ў ізалятары часовага ўтрымання памежных груп.

**Паводле дзяржпамежкамітэту.**

## На будаўніцтве АЭС у Астраўцы загінуў рабочы

АСТРАВЕЦ

**Рабочы спускаўся ўніз і зваліўся на бетонную падлогу, а праз некалькі дзён памёр у бальніцы.**

Няшчасны выпадак адбыўся ранкам 12 ліпеня на Беларускай АЭС, што будуецца ў Астраўцы. Мужчына усталёўваў апалубку для далейшага залівання бетону. Да канца начной змены заставалася паўгадзіны. Спускаючыся ўніз, мужчына не ўтрымаўся і зваліўся на падлогу, распавёў намеснік начальніка Смаргонскага міжраённага аддзела Гродзенскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржінспекцыі Мінпрацы і сацабароны Беларусі **Юры Пытчанкоў**.

З цяжкай траўмай галавы мужчыну даставілі ў бальніцу. Праз чатыры дні ён памёр. Вядома, што загінуламу было 34 гады, ён бетоншчык БУ-61 "Гомельпрамбуда". Цяпер па факце праводзіцца спецыяльнае расследаванне.

**Наталля КАРНЕЕВА, "Вячэрні Гродна".**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Месцаў для інвалідаў-кіроўцаў мала, але займаюць і іх

**Людзі з абмежаванымі магчымасцямі змагаюцца за кожную новую магчымасць стварэння асяродкf для больш камфортнага жыцця, але знаходзяцца тыя, хто карыстаецца іх ільготамі.**

– "Дай мне свае ногі і стаў сваю машыну на маё месца!" – так і кажу тым кіроўцам, што ставяць машыны на месцы для інвалідаў, а самі здаровыя, – абураецца старшыня Маладзечанскай суполкі таварыства інвалідаў **Васіль Таркан**.

МАЛАДЗЕЧНА

Паводле яго словаў, у Маладзечне павялічваецца колькасць паркавачных месцаў адмыслова для інвалідаў. Яны размешчаныя каля некалькіх гандлёвых цэнтраў, нядаўна знак паставілі непадалёк ад таварыства інвалідаў па вуліцы Ясінскага. Васіля Таркана радуе такая тэндэнцыя, але, на яго думку, такіх месцаў для Маладзечна яшчэ вельмі мала.

Прыкрасці сітуацыі дадае тое, што на месцы для інвалідаў пастаянна ставяць машыны кіроўцы без асаблівасцяў здароўя.

– І ў гаражы падпіраюць, і каля таварыства ставяць, – распавядае старшыня маладзечанскай суполкі. – Кажу, што зараз выклікаю ДАІ.

СМАРГОНЬ

Старшыня смаргонскай суполкі таварыства інвалідаў **Мікалай Новік** паведаміў, што месцы для інвалідаў ёсць у цэнтры горада.

Але, на яго думку, такія месцы вельмі патрэбныя каля раённай бальніцы і паліклінікі:

– Пад'ехаць да іх немагчыма, кіроўцы мусяць кідаць машыны на дарозе.

ВАЛОЖЫН

У Валожыне месцаў для інвалідаў на стаянках няма, паведамляе старшыня валожынскай суполкі **Віктар Субач**:

– Я жыву ў Івянцы, часам прыязджаю ў Валожын. Месцаў для інвалідаў нідзе не бачыў ні там, ні там. Вось у Мінску ёсць. Яны ж вельмі патрэбныя, хаця б на цэнтральнай плошчы. Нават у райвыканкам калясачнік не можа заехаць, як і трапіць у крамы. Што ўжо пра большае казаць.

АСТРАВЕЦ

Удзельнікі Астравецкай суполкі таварыства інвалідаў плануюць у жніўні праверыць якасць безбар'ернага асяродкf.

Паводле словаў старшыні суполкі **Юрыя Ждановіча**, месцы для інвалідаў ёсць, але хацелася б больш. Здараецца, што на іх ставяць машыны кіроўцы без інваліднасці.

АШМЯНЫ

Падобная сітуацыя і ў Ашмянах, паведамляе старшыня Ашмянскай суполкі **Людміла Барабанава**.

– У нас не вельмі шмат кіроўцаў. Месцы ёсць у цэнтры Ашмянаў, чула, што там штрафуюць.




Васіль Таркан абураецца, калі бачыць, што кіроўцы ставяць свае машыны на месцы для інвалідаў, а самі не маюць на гэта права.

Фота Настассі РОЎДЫ.

### Стаянка пустая, акрамя месцаў для інвалідаў

Намеснік начальніка аддзела аховы Мінскай вобласці таварыства "Еўрагандль" **Вадзім Грынь** распавядае, што праблема месцаў для інвалідаў асабліва актуальная каля крамы "Е-сіці" ў Маладзечне:

– Месцы для інвалідаў занятыя заўсёды. Раніцай, у гадзін 9-10, калі крама яшчэ толькі адчыняецца, там ужо машыны. Вы думаеце, астатняя стаянка загружаная? Ніводнай машыны! А вось на месцах для інвалідаў заўсёды поўна. Не магу сцвярджаць, што там заўсёды парушальнікі. Але як толькі прыязджае ДАІ, то адразу ёсць на каго складаць пратаколы. Інспектары правяраюць нашу стаянку некалькі разоў на тыдзень, асабліва шмат работы для іх у выхадныя.

### Хто можа ставіць машыну на месцы для інвалідаў

Сітуацыю каментуе дзяржаўтаінспектар маладзечанскага райаддзела міліцыі **Сяргей Бартош**.

На спецыяльных паркоўачных месцы для інвалідаў могуць ставіць машыны кіроўцы, якія маюць абодва пасведчанні: кіроўцы і аб інваліднасці. Гэтае месца не могуць займаць кіроўцы, калі чалавек з інваліднасцю ў машыне толькі пасажыр.

Паводле словаў інспектара ДАІ, у Маладзечне праблема з паркоўкай на месцах для інвалідаў найчасцей узнікае каля крамы "Е-сіці".

Сяргей Бартош адзначае, што паркоўка не па правілах цягне штрафы. Дзве базавыя велічыні – пакаранне для кіроўцаў, якія незаконна паставілі машыну на месца для інвалідаў. Міліцыянер заклікае грамадзян, якія бачаць, што хтосьці няправільна прыпаркаваў машыну, званіць на нумар 102. Гэта тычыцца не толькі месцаў для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, але і паркавак на зялёных зонах і іншых парушэнняў правілаў дарожнага руху.

Карэспандэнт "РГ" не змагла атрымаць адказ ад старшыняў Мядзельскай і Вілейскай суполак таварыстваў, каб прааналізаваць сітуацыю з паркоўкай для інвалідаў у гэтых раёнах.

Апытанне на гэтую тэму чытайце на 24-й старонцы.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА

Каардынатар Офіса па правах людзей з інваліднасцю **Сяргей Драздоўскі**:

– Не сустракаў у Беларусі рэгіёна, дзе адносіны да паркавачных месцаў для машын людзей з інваліднасцю асабліва добрыя. Паўсюль прыкладна аднолькавыя – абыякавыя. Адмыслова пад'язджаю да кіроўцаў, якія займаюць такія месцы. Пытаюся: "Чаму сталі на гэта месца?". У адказ: "Дык нікога ж няма". Але ж ты заняў гэта месца, чалавек паглядзіць і сюды больш не прыедзе. Такія месцы павінны ствараецца каля ўваходаў у будынкі, таму што гэта найзручней для паркоўкі. Калі ўласнік і забудоўшчык правільна арганізоўвае іх, такое месца будзе занята ў першую чаргу. Але, на жаль, не заўсёды гэтыя месцы належным чынам абазначаныя. Стаіць знак, які незразумела ў які бок указвае, і аўтамабілісты на яго не глядзяць. Належнай разметкі на асфальце, як правіла, няма. Хаця і разметка на асфальце рэдка спыняе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Колькасць інвалідаў-калясачнікаў у аўташколах зменшылася на парадак

ВІЛЕЙКА

**У Беларусі навучыцца кіраваць машынай людзі ў калясках могуць толькі ў лічаных аўташколах. У тым ліку, у Вілейскім дзяржаўным каледжы.**

– Мне вядомыя дзве такія аўташколы – у Вілейцы і Мінску, – упэўнены каардынатар Офіса па правах людзей з інваліднасцю з Мінска **Сяргей Драздоўскі**. – Але, магчыма, дзесьці яшчэ яны ёсць. Аднак, як правіла, там адзінкавыя выпадкі навучання. Сістэматычна вучаць толькі ў Вілейцы і Мінску.

### Вучаць індывідуальна

Навучаюць у каледжы людзей з інваліднасцю больш за пяць год, расказаў загадчык аддзялення **Мікалай Кішын**:

– Маем адпаведны дазвол, два аўтамабілі "Ака" з ручным кіраваннем.

Людзей з інваліднасцю апошнім часам стала вучыцца менш. Летась – толькі два чалавекі.

– Раней, як дзяржава давала датацыі, то навучалі па цэлай групе. Было ў нас і тры машыны, – прыгадвае Мікалай. – А цяпер толькі індывідуальна звяртаюцца – таму аплата вышэйшая, чым у групе. Усё-ткі грошы немалыя: цяпер кошт навучання для людзей з інваліднасцю складае каля пяці мільёнаў рублёў. Каб больш было ахвотных, то маглі б групу набраць, было б таннней навучанне.

Едуць вучыцца у Вілейку людзі з розных гарадоў. Ім выдзяляюць інтэрнат. У ім і ў навучальным корпусе зробленыя пандусы. Але, вядома, цяжка на тры месяцы кінуць дом і сям'ю і з'ехаць на вучобу ў Вілейку. Таму, бывае, тэарэтычную частку вывучаюць у сваім горадзе, а ў каледж прыязджаюць вучыцца ваджэнню.

Сяргей вучыўся ў аўташколе ў Мінску. Але сярод яго знаёмых ёсць некалькі чалавек, якія вучыліся кіраваць машынай у Вілейцы:

– Якасць навучання тут добрая. Адзінае, што ўмовы для пражывання спартанскія.

### Колькасць інвалідаў-калясачнікаў у аўташколах зменшылася на парадак

Сяргей Драздоўскі дакладна ведае, чаму за апошнія гады так зменшылася колькасць людзей з інваліднасцю ў аўташколах.

– Прычына вельмі простая. У 2007 годзе адмянілі абавязкі дзяржавы ў забяспячэнні аўтамашынамі з ручным кіраваннем людзей, якія маюць у гэтым патрэбу. Тады выдавалі "Таўры" ці можна замест яе можна было набыць былы ў карыстанні аўтамабіль і пераабсталяваць яго. Гэта было як сістэма. Калі чалавек атрымліваў права на атрыманне такога аўтамабіля, то ён аўтаматычна меў права на бясплатнае навучанне. Потым аплата курсаў праходзіла выключна зыходзячы з індывідуальнага прызначэння МРЭК. А цяпер усё за свой кошт. Прытым, сістэма забеспячэння аўтамашынамі з ручным кіраваннем людзей захавалася ў суседніх краінах.

– **І наколькі зменшылася колькасць інвалідаў-калясачнікаў у аўташколах?**

– Гэта не проста ў разы, а на парадак зменшылася. Калі раней вучыліся дзясяткі людзей, то зараз – адзінкі. А каб чалавек у калясцы якімсьці чынам мог быць у жыцці самастойным і самадастатковым, неабходны аўтамабіль – гэта магу сцвярджаць на сваім прыкладзе.

Атрымліваецца замкнёная кола, даводзіць Сяргей:

**– Як я магу аплаціць курсы і зарабіць сабе на жыццё, калі я не самадастатковы і залежу ад пенсіі. А з пенсіі адкласці грошы для праходжання курсаў і набыцця машыны немагчыма.**



Алесь ВЫСОЦКІ
E-mail:
alvy@tut.by








Матэрыялы праекта забяспечыла Дыяна БУЛДЫК.

# Новы праект замчышча Агінскага зноў схаваюць у шуфляду?

МАЛАДЗЕЧНА

**Ці мае шанец на рэалізацыю праект па забудове пляцоўкі, дзе раней месцілася замчышча Агінскіх? Чым ён адметны?**

Трое сёлетніх выпускнікоў архітэктурнага факультэта Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта распрацавалі праект мемарыяльнай сядзібы гісторыка-культурнага цэнтра ў Маладзечне. Фактычна – праект рэканструкцыі замчышча Агінскіх, паколькі месцам абрана менавіта гэтая пляцоўка каля горада.

Для маладзечанкі **Дыяны Булдык**, мінчанкі **Таццяны Смяян** і бабруйчаніна **Аляксея Дзмітрука** гэты сумесны праект стаў дыпломнай працай.

– Месца, дзе раней было замчышча Агінскіх знакавае для горада, – мяркуе Дыяна Булдык. – Але яно ніяк не выкарыстоўваецца. Знаходзіцца наводшыбе, пра яго мала хто ведае, і тым больш, ездзіць туды. У большасці гарадоў Беларусі не хапае грамадскіх пляцовак для адпачынку людзей. Маладзечна ж лічыцца культурнай сталіцай Міншчыны, тут шмат творчых людзей. І на месцы замчышча Агінскага мы хацелі стварыць культурную пляцоўку.

## Мікалай Тамашэўскі – пра новы праект

Пяць гадоў таму "РГ" распавядала пра праект па забудове тэрыторыі каля замчышча, аўтар якога – **Мікалай Тамашэўскі**. Тады меркавалася, што праект магчыма рэалізаваць да 2015 года. Сёлета замчышча стаіць у некранутым выглядзе.

– Адрозненне новага праекта ў тым, што ён ахоплівае ўсё поле неабходных работ. Кожная дэталь мае канкрэтыку. Я стварыў канцэпцыю рэканструкцыі замчышча, якая лягла ў аснову праекта. Маладыя архітэктары звярнуліся да мяне, каб прадумаць праект. У выніку яны зрабілі выдатную работу. Цяпер пытанне, як яе рэалізаваць.

## Чым адрозніваецца новы праект

Пытанне "Дзе ўзяць грошы?" ужо шмат гадоў не можа вырашыцца. Сустаршыня праўлення мясцовага дабрачыннага фонда "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага" **Уладзімір Сівуха** адназначна пагаджаецца, што тэрыторыя каля замчышча павінна быць абуладкаваная. Але пакуль усе ідэі, як зрабіць гэта найлепш, не далі плёну.

– Атрымалі чатыры праекты, але ніводны з іх не быў дасканала сфарміраваны. Трэба было звярнуцца да распрацоўшчыкаў, якія б маглі прадумаць усе дэталі. Атрымалася, што адзін з лепшых праектаў распрацавала гэта група студэнтаў: праект у выглядзе дыпломнай работы. Удзельнікі фонду дапамаглі зрабіць яго больш глыбокім і цікавым.

Адметнасць праекта Уладзімір Сівуха бачыць у яго комплекснасці: ён прадугледжвае месца для адпачынку як дзяцей, так і дарослых, насычаны культурна-гістарычнымі адметнасцямі. Паводле праекта, будзе абуладкаваная рака Уша, зробленая этнавёска, дзіцячая пляцоўка. Ёсць некалькі варыянтаў гасцініцы.

– Для пачатку гэты праект вельмі моцны, уражвае сваім выглядам, – гаворыць Уладзімір Сівуха. – Наогул, бацька ўсяго, што звязана з развіццём замчышча – Мікалай Тамашэўскі. Яго ўнёсак каласальны. І новы праект грунтуецца на яго задуме. Але ён не рэалізаваны. Магчыма, таму, што яшчэ не прыйшоў час. Людзі яшчэ не асэнсавалі важнасць турыстычнага аб'екта на замчышчы. Для рэалізацыі не хапае творчых і фінансавых рэсурсаў.

На думку Уладзіміра Сівухі, першы крок для рэалізацыі праекта – расказаць пра яго грамадскасці. Для таго, каб як мага больш людзей ведалі пра магчымы комплекс, каб маладзечанцы загарэліся ідэяй стварэння турыстычнага аб'екта на замчышчы.

– Патрэбна знайсці генеральнага спонсара, а пасля далучыць некалькіх партнёраў: хтосьці пабудуе гасцініцу, нехта – рэстаран. Безумоўна, такая інвестыцыя выгадная, – запэўнівае Уладзімір Сівуха.

## "Мы не ведаем, як выглядаў замак Агінскага"

Начальнік аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі **Аляксандр Рамановіч** хоць і не бачыў праект маладых архітэктараў на свае вочы, аднак ведае, што ён з сябе ўяўляе.

– Складанасць яго рэалізацыі яшчэ ў тым, што дагэтуль мы не маем ні адзінага дакументальнага пасведчання пра тое, як насамрэч выглядаў замак Агінскага. Рабіць праект абы ён быў зроблены – такі падыход няправільны. Да таго ж, каб пачаць будаваць нешта на археалагічным грунце, трэба дазвол археолагаў і міністэрства культуры. Атрымаць яго можна пасля таго, як спецыялісты правядуць даследванне на гэтым месцы. А даследванне – справа не з танных.

Як заўважыў Аляксандр Рамановіч, атрымаць магчымасць збудаваць комплекс можна, трапіўшы ў праграму "Замкі Беларусі".

– Але для гэтага трэба прадставіць праект. І ў ім павінна быць навуковая частка, – дадаў Аляксандр Рамановіч.

Па-ранейшаму, не зразумела, ці ёсць нейкія зрухі ў бок рэальнага ўвасаблення праектаў з паперы. Час ідзе, а грошай як не было, так і няма. І невядома, колькі яшчэ іх давядзецца чакаць.

**Настасся РОЎДА, Зоя ХРУЦКАЯ, Наталля ТУР.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На свяце возера спрабавалі свае сілы ў бітве мяшкамі і дзеці, і дарослыя.

СВЯТЫ

# Наш адказ Хатабычу

МЯДЗЕЛ

**У Мядзеле свята возера адзначылі з Купальскім дзядком і сталічнымі артыстамі.**

– А калі "Трах-цібідохцібідох" зрабіць, жаданне выканаеш? – з такім пытаннем падкаціўся да дзядулі з густой барадой госць свята Возера.

Але ён памыліўся. На адной з пляцовак свята, што прайшло 25 ліпеня ў Мядзеле, сядзеў не Стары Хатабыч. Уладкаваўся тут наш Купальскі Дзядок.

Але той не разгубіўся і паабяцаў: "Вось хто першы падыме купальскую зёлку, што ўпадзе на рушнік, таго шчасце!". І лавілі, слухалі паданні пра азёры Нарачанскага краю.

– Яшчэ паказваю зёлкі. Расказваю, якія дапамагаюць пры хваробах, з якіх гарбату заварваюць, – дзеліцца Купальскі Дзядок.

Шмат было ахвотных сфатаграфавацца з гэтым персанажам – найбольш цікавіў ён дзяцей. Дапамагалі яму Талака ды Русалкі.

Шмат на свяце было забаў для дзяцей. Маглі яны і пракаціцца ў зорбе (шар на вадзе) па возеры, і ў пену залезці, і мяшкамі пабіцца. Ды не толькі дзеці, а і дарослыя спрабавалі ўтрымацца на бярвяне пасля ўдараў саперніка.

## Пераможца – нязменны

У межах свята прайшлі спаборніцтвы па рыбнай лоўлі. Зноў пераможцам стаў жыхар Мядзела **Антон Каласоўскі**. У гэткіх спаборніцтвах ён перамагае чацвёрты год запар, а да гэтага таксама быў у ліку лепшых. Злавіў ён больш за тры кілаграмы рыбы.

– Сёлета была цяжэй перамагчы – можа, хто і лепей ловіць, – прызнаецца.

Канкурэнцыі пераможца не баіцца. Наадварот, хоча, каб удзельнікаў было больш.

– Лодак у нас стаіць 25. А каб яшчэ рыбакоў з усяго раёна сабраць – было б цікавей.

## Інтэрактыўны канцэрт і шоу стыхій

Народныя майстры прывезлі тавары на любы густ: ад амаль бязважкай саломкі да грунтоўных бондарскіх вырабаў.

– Во, каб гэтыя бочачкі для віна поўныя прывёз, то гандаль у цябе б добры пайшоў, – раіў бондару мужчына, намякаючы на адсутнасць на свяце спіртнога ў продажы.

На сцэне выступалі як мясцовыя артысты, так і заезджыя. Спявалі мясцовыя аматарскія калектывы, а таксама **Ларыса Грыбалёва**, група "Мілкі", праект "Міс Нявеста".

Канцэрт атрымаўся як ніколі інтэрактыўным – вядоўцы і артысты штораз запрашалі юных мядзельцаў далучыцца да іх на сцэне. Танцавалі разам.

Весела было і на моладзевай пляцоўцы: там экспрэсіўна, з мноствам інструментаў перапявалі вядомыя хіты.

Завяршылася ўсё позна ўвечары "шоу стыхій", у якім з'ядналіся вогненнае шоу і водная феерыя.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАДЗЕІ

# Ажывуць падзеі Першай сусветнай

МЯДЗЕЛ

На Мядзельшчыне пройдзе міжнародны ваенна-гістарычны фестываль "Нарачанскі набат-2015".

Прымуць у ім удзел ваенна-гістарычныя клубы, якія займаюцца рэканструкцыяй расійскай і германскай армій часоў Першай Сусветнай вайны.

Адбудзецца фестываль у другі раз. Як і летась, ён будзе праходзіць ля вёскі Пасынкі.

Папярэдне рэканструкцыя бою намечана на 22 жніўня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● АНОНС

# У Смаргоні пройдзе воркаўт-фестываль

СМАРГОНЬ

**Першы смаргонскі воркаўт-фестываль пройдзе 1 жніўня.**

Адбудзецца ён на спартыўнай пляцоўцы Воркаўт па вуліцы Леніна, 56а, якую адкрылі летась.

Прымуць удзел спартсмены з розных куткоў краіны: Смаргоні, Вілейкі, Ашмянаў, Мінска, Гомеля, Стоўбцаў, расказаў каардынатар руху Стрыт-воркаўт у Смаргоні **Аляксей Мычко.**

Пройдуць спаборніцтвы "freestyle battle" (яны праходзяць у выглядзе батл-двубояў у некалькі этапаў, спартсмены прадэманструюць найскладаныя сілавыя і дынамічныя элементы). А таксама – дваябор'е (адцісканні на брусах і падцягванні на перакладзіне з дадатковай вагой).

Гледачы змогуць паўдзельнічаць у спартыўных конкурсах, убачыць выступленне смаргонскай каманды па воркаут і каманды Федэрацыі Стрыт-воркаўт.

**Пачатак – у 14 гадзін.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота rollsinspots.com

Спаборніцтвы ў Смаргоні пройдуць 1 жніўня.

**Даведка "РГ". Воркаўт** – уключае ў сябе выкананне розных практыкаванняў на вулічных спортпляцоўках: на турніках, брусах, шведскіх сценках, гарызантальных лесвіцах і іншых канструкцыях, ці ўвогуле без іх выкарыстання. Асноўны акцэнт робяць на развіццё сілы і цягавітасці ад працы з уласнай вагой.

Фота з асабістага архіва Іосіфа ПАЎКАЛАСА.

Дзясяты клас Дубраўскай школы. Злева направа першы рад: Ніна Сарока, Люда Салавей, класны кіраўнік Станіслаў Паўлавіч Захарчук, Галя Багіна, Франя Багіна. Другі рад: Юзік Паўкалас, Міша Шніп, Лёля Кавалеўская, Тамара Грышэль, Тамара Варыкаш, Таня Багіна, Сцяпан Мурза. Трэці рад: Лёня Рабец, Казімір Вярбіцкі, Чацверты рад: Ваня Ройнік, Віктар Кавалеўскі, Толік Чучвал, Аляксей Пракопчык.

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Настаўнікі ў Дубраве, перад якімі здымалі шапку

*Заканчэнне. Пачатак у №30.*

МАЛАДЗЕЧНА

Настаўнікам фізікі ў школе працаваў легендарны **Яўген Фёдаравіч Мацыральнік**. Мы былі аднымі з апошніх вучняў гэтага выдатнага настаўніка. Сярод яго выхаванцаў шмат вучоных-фізікаў. Ён быў, пэўна, апошнім настаўнікам, перад кім вяскоўцы здымалі шапку і кланяліся.

Яго жонка, **Людміла Іванаўна**, вяла ў нас урокі рысавання. А яшчэ ў пазакласны час – драмгурток. Там ставіліся пастаноўкі, што карысталіся вялікім поспехам у вяскоўцаў. Адсюль пачынаў свой шлях артыст Брэсцкага і Львоўскага тэатраў **Юры Газіеў**.

## Вячаслаў Міхасёнак – творчы, адказны настаўнік музыкі

Настаўніцай англійскай мовы працавала **Валянціна Аляксандраўна Ціханчык** родам з вёскі Уша-2, вельмі спакойны і ўраўнаважаны чалавек.

**Віктар Сцяпанавіч Мяльгуй** з вёскі Татарская ў старэйшых класах вёў урокі працы – трактар. Ён і цяпер яшчэ вядзе даволі актыўны лад жыцця.

## Напаў на настаўніка спеваў

Музыку і спевы выкладаў **Вячаслаў Васільевіч Міхасёнак**. Прыгожы ён быў чалавек і знешне, і знутры. Творчы настаўнік, адказны. Колькі канцэртных праграм ён падрыхтаваў з намі. З нашых хлопцаў-аднакласнікаў **Сцяпана Мурзы**, **Валеры Кулаковіча**, **Віктара Харлапа**, **Уладзіміра Кізіковіча** і мяне ён склаў вакальны гурт, які існаваў некалькі год. Але вывяўць адзіночнага вакаліста з гэтага гурта яму ніяк не ўдавалася. Не дацягвалі мы. У вольны ад урокаў час ён збіраў па хутарах песні і паданні. Займаўся фатаграфіяй. Не ўсе разумелі яго і нават пасмейваліся, называючы яго Пеўнікам. Калі на спевах Вячаслаў Васільевіч для размінкі зацягваў "Саўка і Грышка ладзілі дуду", прыбіральшчыцы, што мылі падлогу ў школьным калідоры, ад смеху хапаліся за жываты і ледзь не падалі. Але Вячаслаў Васільевіч не звяртаў увагі на розныя смяшкі.

У майго брата Часлава ён ужо вёў родную мову і літаратуру і быў класным кіраўніком. Брат узгадвае адзін выпадак. П'яны дзяцюк падчас канцэрта пачаў прыкра сябе паводзіць, настаўнік зрабіў яму заўвагу. Той дачакаўся, калі скончыцца канцэрт, і як толькі Вячаслаў Васільевіч выйшаў на вуліцу, кінуўся на яго са сцізорыкам. Настаўнік не разгубіўся і так яму ўрэзаў, што небарака ледзь вылез з вялікай гурбы снегу. А той ножык так і не знайшлі.

Вячаслаў Васільевіч Міхасёнак пісаў вершы, артыкулы. Друкаваўся ў газетах і часопісах. Быў добра знаёмы з **Генадзем Каханоўскім** і **Уладзімірам Караткевічам**.

## Канстанцін Канстанцінавіч Глухоўскі – сапраўдны дырэктар

У мяне родную мову і літаратуру выкладала выдатны знаўца роднай мовы і літаратуры **Еўдакія Уладзіміраўна Манчукевіч**. І калі ў маіх аповедах ёсць хоць зерне нечага каштоўнага, то ў тым вялікая заслуга гэтай настаўніцы. Яна была першай, хто да маіх школьных сачыненняў пачаў адносіцца ўважліва. Толькі крытыкавала за почырк.

Сама высокая, прыгожая, статная. Была замужам за хлопцам з Еленкі. Той працаваў фатографам у Мінску. Пасля Дубраў працавала ў Мінску карэктарам у адным з цэнтральных беларускіх часопісаў. Рана пайшла з жыцця. Засталася адзіная дачка. Нам, вучням, пашанцавала, што нас вучыла Еўдакія Уладзіміраўна.

Пасля **Крэсава** і **Тонкавіча** дырэктарам Дубраўскай СШ нязменна, аж да 90-х гадоў, працаваў **Канстанцін Канстанцінавіч Глухоўскі**. Родам з Навасёлак. Гэта быў сапраўдны дырэктар. А ў тыя гады пасада дырэктара школы была вельмі значная ў грамадстве. Аўтарытэт яго, як кіраўніка, нічым не саступаў мясцовым кіраўнікам саўгаса ці сельсавета. Яго сын **Генадзь**, афіцэр, загінуў пры вывадзе войск з Афганістана. Дачка, **Людміла**, жыве ў Ракаве. Была замужам за маім аднакласнікам **Віктарам Кавалеўскім**, з якім я сядзеў за адной партай у старэйшых класах. Віктар працаваў галоўным інжынерам Аляхновіцкай птушкафабрыкі і дырэктарам саўгаса ў Ракаве. На вялікі жаль, ужо пайшоў з жыцця.

## Праца настаўніка накладвае адбітак на ўсё жыццё

У 90-х на платформе прыпыначнага пункта "Раманы" я сустрэў былога дырэктара школы Тонкавіча. Лёс яго склаўся так, што пасля Дубраў ён ужо ніколі не працаваў дырэктарам і нават настаўнікам. Жыў і працаваў у Заслаўі. Але пад яго поглядам я адчуў сябе тым першакласнікам Юзікам у кароткіх штоніках, якому трэба было выхадзіць з шарэнгі, каб атрымаць узнагароду. А ў былога дырэктара нешта прамільгнула на твары. І, магчыма, ён успомніў маё прозвішча.

Так здарылася, так склалася, што і я пасля Ашмянаў ужо ніколі не працаваў у школе. Медыкі, калі пачынаюць сваю працу, даюць клятву Гіпакрата. Настаўнікі такой клятвы не маюць. А я з некаторых часоў пачаў заўважаць, што не магу дазволіць сабе той ці іншы ўчынак. І гэты адлік пачаўся з той непрацяглай працы ў школе ў Ашмянах.

**Іосіф ПАЎКАЛАС, вёска Навасёлкі-1.**

КАЛЯНДАР

31 ЛІПЕНЯ

**У 1920** годзе Літоўска-Беларуская ССР спыніла існаваньне, адбылося другое абвяшчэнне БССР.

**У 1989** нарадзілася **Вікторыя Азаранка**, беларуская тэнісістка, першая ракетка свету.

1 ЖНІЎНЯ

**У 1812** годзе **Напалеон І Банапарт** аддаў загад аб стварэнні войска Вялікага Княства Літоўскага.

**У 1923** годзе на Валожыншчыне нарадзіўся **Шымон Пэрэс**, ізраільскі палітык, прэм'ер-міністар Ізраілю, а пасля прэзідэнт Ізраілю, лаўрэат Нобэлеўскай прэміі міру 1994 году.

**У 1936** годзе нарадзіўся **Іў Сэн Ларан**, французскі мадэльер, які панаваў у свеце высокай моды у 1960-я і 1970-я гады.

2 ЖНІЎНЯ

**У 1549** годзе нарадзіўся **Мікалай Хрыстафор Радзівіл Сіротка**, князь, дзяржаўны і ваенны дзеяч Вялікага княства Літоўскага.

3 ЖНІЎНЯ

**У 1546** годзе за друкаванне работ гуманістаў французскі выдавец **Эцьен Дале** быў прызнаны ў ерасі і асуджаны Парыжскім парламентам да смяротнага пакарання. Прысуд выканалі 2 жніўня на плошчы Мабер, непадалёк ад Сабору Парыжскай Маці Божай. Попел Дале развеялі па ветры. У 1889 годзе на месцы пакарання паставілі помнік. У час акупацыі Парыжа немцы дэмантавалі і пераплавілі помнік.

**У 1847** годзе памёр **Ян Чачот**, паэт, беларускі фалькларыст.

4 ЖНІЎНЯ

**У 1945** годзе заснавана філія Літаратурнага музею **Янкі Купалы** ў Вязынцы і Ляўках.

**У 1693** годзе французскі манах **Дом Перыньён** адкрыў сакрэт вырабу шампанскага.

5 ЖНІЎНЯ

**У 1772** годзе адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй.

6 ЖНІЎНЯ

**У 1506** годзе войска Вялікага Княства Літоўскага пад камандаю **Міхала Глінскага** перамагло крымскіх татар у Клецкай бітве. Гэта найбольш значнае паражэнне татар на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

**У 1938** годзе нарадзіўся **Ігар Лучанок**, беларускі кампазітар, аўтар папулярных песен. Ён аўтар музыкі да песень "Мой родны кут", "Алеся", "Спадчына".

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Праверце сваю аб'ектыўнасць

## Ці пахваліце вы міліцыю, калі вас аштрафуюць па законе?

МАЛАДЗЕЧНА

**Міліцыя тлумачыць, чаму часам не атрымліваецца прыехаць за некалькі хвілін, чаму не ўсе мабільныя тэлефоны можна адшукаць і што рабіць, калі з вамі супрацоўнікі абышліся груба.**

Ці давяраеце вы міліцыі?
а) Давяраю
б) Давяраю, але не цалкам
в) Не давяраю
г) Цяжка адказаць
д) Няма адказу.

Гэта сёмае пытанне анкеты, якую два разы на год праводзіць Міністэрства ўнутраных спраў, калі высвятляе, ці добра працуюць раённыя аддзелы.

Пытаюцца пра рознае. Напрыклад, наколькі аператыўна адрэагавалі на званок у "102"? Ці эфектыўна змагаюцца з п'янствам і самагонаварэннем? Ці лёгка дастаць наркотыкі?

– Анкеты ў той ці іншай ступені дапамагаюць убачыць праблемы, – кажа начальнік Маладзечанскага РАУС **Валянцін Асіповіч**. – Паказваюць, на што трэба звярнуць увагу. Больш за тое, падчас анкетавання супрацоўнік міліцыі размаўляе з людзьмі. Часта ў такіх гутарках высвятляецца, дзе праблемы з дарогамі, у якіх грамадскіх месцах людзі найчасцей выпіваюць і іншае.

Вынікі анкетавання могуць быць не зусім аб'ектыўнымі. Сярод людзей, якія ставяць птушачкі, знойдуцца тыя, каго міліцыя па пэўных прычынах прыцягнула да адказнасці.

– Ці напіша ён, што міліцыя добра спрацавала? Ці будзе лічыць, што супрацоўнік ДАІ, які аштрафаваў за перавышэнне хуткасці, зрабіў правільна? Спрэчнае пытанне, – мяркуе Валянцін Асіповіч. – Мы заклікаем людзей даваць нам ацэнку не па адной сітуацыі, а агулам. І як мага больш адасоблена і аб'ектыўна. Тады мы будзем мець вынікі, максімальна набліжаныя да праўдзівых.

### Да каго міліцыя едзе найперш

Тыдзень таму "РГ" запусціла абмеркаванне ў сацыяльных сетках. Мы высвятлялі, што ў працы міліцыі незадавальняе нашых чытачоў. Некаторыя пішуць, што доўга едуць на выклік па "102".

– Паведамленняў вельмі шмат. Мы мусім на ўсе адрэагаваць, – распавядае пра асаблівасці працы Валянцін Асіповіч. – Найперш мы едзем туды, дзе ёсць пагроза жыццю чалавека. Да таго, каму зараз, у гэтыя хвіліны, патрэбная дапамога.

Штодзень 90-100 чалавек звяртаюцца ў Маладзечанскі райаддзел міліцыі. Вельмі шмат падчас сямейных скандалаў. Часам з пагрозай жыццю.

Бывае, людзі тэлефануюць не зусім па адрасе, тады іх паведамленні перанакіроўваюць. То суседзі топяць, то замок заклінавала і немагчыма трапіць у кватэру, то чалавек сам зваліўся і просіць дапамогі.

– Нават калі чалавек кажа, што сам зваліўся, мы мусім выехаць і праверыць інфармацыю, – тлумачыць начальнік РАУС. – Раптам не сам і праз некалькі дзён высветліцца, што ў яго пачаліся сур'ёзныя праблемы са здароўем, а вінаваты ў гэтым хтосьці іншы? Бывае, тэлефануюць і кажуць: "Муж сышоў гуляць і не вярнуўся. Дапамажыце". Шукаем, вяртаем. Людзі прыходзяць да нас з самымі рознымі пытаннямі. Гэта паказвае, што яны нам давяраюць.

### Чаму не ўсе тэлефоны знаходзяць

Некаторыя кажуць, што міліцыя не рэагуе на звароты па "102".

– Але зварот не можа быць не зарэгістраваны. Адпаведна, ён не можа застацца праігнараваным. Усе паведамленні запісваюцца, – распавядае Валянцін Асіповіч. – Потым іх перапраўярае кіраўніцтва РАУС. Гэта стаіць на пастаянным жорсткім кантролі. Іншая справа, што не ўсе здарэнні атрымліваецца раскрыць.

Да прыкладу, крадзяжы тэлефонаў. За паўгода на Маладзечаншчыне згубілі ці выкралі больш за 150 тэлефонаў. Найчасцей яны знікаюць, калі збіраюцца вялікія кампаніі і выпіваюць. Палову тэлефонаў, што зніклі, ужо адшукалі.

– Ёсць людзі, якія "прашываюць" тэлефоны. Гэта значыць, дапамагаюць зламыснікам замаскіраваць крадзеж, – кажа начальнік РАУС. – Увогуле без супрацы з жыхарамі не можа быць парадку. Некаторыя кажуць, што ў іх двары выпіваюць, а міліцыя нічога не робіць. Пазваніце і распавядзіце, што і дзе адбываецца. Гэта дапаможа нам больш эфектыўна спрацаваць. Каб у нашым агульным доме быў парадак, трэба, каб мы працавалі над ім разам.

### Што рабіць, калі з вамі абышліся груба

Як тлумачыць Валянцін Асіповіч, ёсць сітуацыі, у якіх міліцыя мусіць паводзіць сябе досыць цвёрда. Напрыклад, калі муж збівае да паўсмерці жонку і ўрываецца міліцыя. Тут ужо, што называецца, не да далікатнасці.

У іншых сітуацыях, калі падаецца, што супрацоўнік міліцыі быў занадта жорсткім, павёў сябе няправільна і бестактоўна, варта звяртацца да начальніка РАУС. За свае дзеянні супрацоўнікі міліцыі могуць панесці матэрыяльную і дысцыплінарную адказнасць. Таксама іх могуць звольніць.

– Ёсць факты, калі міліцыя прыязджае на здарэнні несвоечасова. Мы гэтыя факты ведаем і кожны з іх уважліва разбіраем. Так здараецца толькі таму, што было вельмі шмат паведамленняў, а не таму, што мы не хацелі прыехаць ці займаліся нейкімі сваімі справамі. Мы разумеем, што за кожным зваротам стаіць жыццё і здароўе чалавека. Для нас гэта самае важнае, – падагульняе Валянцін Асіповіч.

### Некалькі водгукаў аб працы міліцыі ад чытачоў "РГ"

**Святлана:**
"Вельмі задаволена іх працай. Дзіця згубіла мабільны тэлефон, вельмі хутка знайшлі. Дзякуй! Тэлефон быў згублены ў выходны дзень, званілі на "102". Прыехалі, апыталі дзіця. Мы напісалі заяву. Маглі і не прыехаць з такой нагоды. Я адразу і сумнявалася. Знайшлі тэлефон праз два месяцы".
**Дзмітры:**
"Не ведаю, мой тэлефон не знайшлі. Восем месяцаў як шукаюць".
**Ала:**
"Мой ровар знайшлі праз пару дзён і міліцыянеры прывезлі самі, малайцы".

**Настасся РОЎДА.**



Валянцін Асіповіч, начальнік Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў

### Колькі чалавек Маладзечанскі РАУС прыцягнуў да адказнасці

Дадзеныя за паўгода 2015 года.

| | |
|---|---|
| 1029 | злачынстваў адбылося за паўгода. На разглядзе знаходзілася 1857 заяў |
| 2300 | чалавек прыцягнулі да адказнасці за распіццё ў грамадскіх месцах |
| 344 | кіроўцы – за кіраванне без правоў кіравання |
| 1944 | чалавекі – за перавышэнне хуткасці |
| 1081 | пешаход – за парушэнне правілаў дарожнага руху |
| 151 | транспарт затрымалі за парушэнні эксплуатавання і даставілі на штрафстаянку ДАІ |
| 163 | чалавекі прыцягнулі да адміністратыўнай адказнасці за кіраванне ў нецвярозым стане |
| 28 | чалавек – да крымінальнай адказнасці за кіраванне ў нецвярозым стане |




Інфаграфіка Настасся РОЎДА.

НАВІНЫ

## Двух 30-гадовых мужчын затрымалі за ўжыванне спайсу

ВАЛОЖЫН

Адзін з іх цяпер жыве ў Валожыне, другі – у Мінску. Мужчыны сталефанаваліся і вырашылі адпачыць – пакурыць спайс.

Яны па звычайнай схеме замовілі наркотык у інтэрнэце, распавёў "РГ" старшы следчы Валожынскага райаддзела Следчага камітэта **Віктар Галоўчыц**. Заплацілі за яго праз электронны кашалёк, забралі і палову скурылі. Частку прыхавалі для другой вечарыны.

Назад вярталіся на машыне, за рулём якой быў 22-гадовы малады чалавек, які і не падазраваў, што перавозіць наркотык. На дарозе кампанію спынілі супрацоўнікі міліцыі, каб праверыць дакументы. Вырашылі агледзець машыну і знайшлі спайс.

Як пазней высветлілася, аднаго з мужчын раней ужо прыцягвалі да адказнасці за ўжыванне марыхуаны. Але не пасадзілі за краты, паколькі да таго выпадка ён быў не судзімы.

Са спайсам мужчын затрымалі 30 красавіка. Узбудзілі крымінальную справу.

– Агульная карціна з наркотыкамі амаль не змянілася. Яны ідуць да нас у раён з Мінска. Там іх звычайна замаўляюць і набываюць, – адзначыў Віктар Галоўчыц.

Раней за ўжываннем спайса звычайна траплялія падлеткі і маладыя людзі. Быў выпадак, калі ў Маладзечне ў рэанімацыю трапіў васьмікласнік.

**Аддзел інфармацыі.**

## Парушальнікаў правілаў бяспекі на чыгунцы чакаюць штрафы

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 24 ліпеня да 2 жніўня Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце праводзіць спецыяльнае мерапрыемства.

У гэты час міліцыянеры праверац, ці трымаюцца правілаў бяспекі пры пераходзе праз чыгунку. Асаблівую ўвагу звернуць на неўстаноўленыя месцы, а таксама калі чыгунку перабягаюць перад транспартам, які рухаецца.

Штрафы чакаюць і тых, хто будзе на аб'ектах чыгуначнага транспарта п'яным. Просім трымацца правілаў бяспекі на чыгунцы.

**Паводле Маладзечанскага АУС на транспарце.**

# Хто ён, дзядуля на роліках у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА, АШМЯНЫ

**Для маладзечанцаў ён такая ж славутасць, як і амфітэатр, фантан "Купалле" ці пешаходная вуліца. Яго называюць дзедам на роліках ці дзіваком. Упершыню сваю гісторыю ён распавядае чытачам "РГ".**

Яго завуць **Вікенці Аляксандравіч Налівайка**. Часам імя блытаюць, называюць Віктарам ці нават Валерай, нават у дакументах. Мужчыне не вельмі падабаюцца гэтыя імёны.

Ён ахвотна падзеліцца навінамі і сваімі думкамі, як быць шчаслівым. 62-гадовы мужчына – вялікі аматар здаровага ладу жыцця. А пачалася любоў да фізічнай культуры з інтэрната.

## Інтэрнат

– Нарадзіўся ў Ашмянскім раёне. У чатыры гады трапіў у інтэрнат у сярэднюю групу, а брат – у малодшую. Я не ведаю, чаму мы апынуліся ў інтэрнаце, не буду нічога казаць пра маці. У дзяцінстве я не тое, каб гараваў, але моцна чакаў, што прыйдзе мама.

Брата спачатку ўвесь час за руку цягаў. У першы клас адправілі ў Гальшаны. Раней часта бывала, што дзяцей разлучалі, не ведаю чаму. Брата павезлі ў Ашмяны, дзесяць год там вучыўся. Таксама паспяховы ў спорце – па штанзе кандыдат майстра спорта, дзюдо займаўся.

Мяне кідалі па казённых дамах. Пасля Гальшан – у Парэчча. Дзявяты клас закончыў у Смаргонскім раёне. Праўда, заўсёды пыталіся, ці не супраць пераехаць. Так я і падарожнічаў.

Пазней знайшоў звесткі пра дзядулю і бабулю, але іх ужо не было. Пра маці нічога не вядома, яна як шпіён. Аказваецца, у мяне ёсць яшчэ брат і сястра – Антон і Гендрыка. Іх раней адправілі ў інтэрнат. А пасля іх сляды згубіліся. Ёсць надзея, што калінебудзь знайду іх, гэта ж родная кроў.

Я прыязджаў у 25 год у сваю вёску. На станцыі Ашмяны выйшаў, 11 кіламетраў да вёскі ісці. У крайняй хаце пакармілі, паклалі спаць на падлогу. А раніцай гаспадыня паказала мой былы дом. Памятаў з дзяцінства ліпу – застаўся пень. Агарод, сад. Там ужо чужыя людзі жылі. Мог бы адсудзіць дом, але не стаў.

## Фізкультура

Мы ў інтэрнаце ў Вярэйках Смаргонскага раёна аднойчы выпадкова знайшлі магілу салдата. Гулялі, убачылі рамень, пацягнулі за яго – вылезла скура. Раскапалі пасля. Там ужо разлажыўся цела. А ў патроне была запіска, напісаная хімічным алоўкам, з дадзенымі чалавека. Перапахавалі, на брацкай магіле ўпісалі прозвішча, яго сваякі прыехалі з Расіі.

Я вучыўся няжепска, а любімым прадметам заўсёды была фізкультура. Фізічная падрыхтоўка вельмі дапамагла ў жыцці. Нават цяпер: катаюся на ровары, двое ролікаў, яшчэ зімовыя канькі, адны хакейныя. Лыжы адны драўляныя, іншыя пластыкавыя. Заўсёды стараюся рухацца, шмат пешшу хадзіць. Машыны не меў, толькі мапед. Калі жонка памерла, трэба было помнік паставіць, вось яго і прадаў.

А спортам займаўся з дзяцінства. 500-метроўку за школу бегаў.

**У інтэрнаце тэлевізара не было, так што гулялі ў футбол, пакуль не сцямнее. У каго былі цётка ці дзядзька, ці хоць які сваяк, з'язджалі на выхадныя. А чалавек 12 заставаліся. Гулялі ў тэніс, зімой – санкі кожнаму, хто старэйшы – лыжы ці канькі.**

Спартзала заўсёды адчыненая – гулялі ў валейбол, баскетбол.

У казённых дамах фіззарадка нязменная: зубы пачысціў, ложак запраўіў – і зарадка. У калектыве гэта прасцей, а такі парадак дысцыпліне. Ад 5 класа ўмелі мыць посуд, падлогу. У арміі тое самае, што ў інтэрнаце, толькі зброю дадалі. Шэсць кіламетраў маршбрасок ва ўсім абмундзіраванні – нават весела, нібы ў вайнушку гуляў. А некаторым, асабліва курыльшчыкам, было цяжка.

Гэта натуральна, што чалавек жыве, пакуль рухаецца. Цяпер мы жывём у кватэрах, дзе ўсё на кнопках. Чалавек стаў гультаём, а так не павінна быць. Вось мае ролікі – сасуды працуюць, капіляры, дыхалка. А на канапе седзячы – дыханне слабое, сасуды слаба напаўняюцца. Так адно адно за адным у чалавека ўсё пачынае хварэць.

## Захапленні

Пасля інтэрната на Смаргоншчыне пайшоў у ПТВ №42, стаў машыністам торфаўборачных машын, вось правы тракварыста 3 класа. Пасля вучылішча – ў армію, служыў у Мінску. Пасля арміі восем месяцаў працаваў па спецыяльнасці.

Потым паступіў у Пінскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум. Стаў тэхнікам-механікам і майстрам вытворчага навучання. Спортам займаўся ўжо сур'ёзна: на лыжах дзясятку кіламетраў даваў. Быў старастай групы, маляваў газету сваёй групы, а таксама тэхнікума. Здымалі з заняткаў выступаць на спартыўных мерапрыемствах. А яшчэ граў у струнным аркестры на мандаліне і ў духавым на ўдарным інструменце. І на танцах граў на ўдарных у маладосці. Мандаліна і цяпер дома ёсць.

Я з дзяцінства някепска маляваў, таму у 30 год пайшоў вучыцца ў Беразінскую мастацкую студыю. Займаўся пасля работы, закончыў на выдатна. Мой настаўнік быў вельмі дасведчаны мастак, я ў яго вучыўся пісаць алеем – **Мікалай Якаўлевіч Шчаўканогаў**. Ён быў знаёмы з мастачкай **Ядвігай Раздзялоўскай**, мастаком **Міколам Аўчыннікавым**, сябраваў з цымбалістам **Юрыем Церабуном**.

Я з Беразінскага ездзіў будаваць завод парашковай металургіі, выконваў бетонныя работы. У электрычцы набіваў руку – маляваў людзей, што спяваюць: вось тыповы селянін, нос які ў яго, бачыш. *(Вікенці паказвае работы. Іх фота глядзіце на сайце rh.by)* А вось якая бабулька каларытная. Такія замалёўкі хутка робяцца, і добра трэніруюць. Тут настаўніца правярае работы. Царква ў Гарадзілаве. А вось дачку Інну маленькую намаляваў тушшу.

Вось акварэллю маляваў карціну, тут нібы дух жонкі лунае. А вось праца на тэму афганцаў. Зборны вобраз загінулага, якога памінаюць. Мой брат таксама не вярнуўся адтуль.

Прынёс вам вершы свае пачытаць: тут пра кветкі на дарозе, тут сябру напісаў. Можа, крыху сумныя. Я не хвалюся, што і малюю, і пішу, і граю, але ж вы запрасілі, дык трэба расказваць.

Пасля "парашкоў" працаваў майстрам на сваім участку, пасля апаратчыкам азотнай станцыі, потым на "Модулі". Затым перайшоў у ахоўнікі. І цяпер у Дэпартаменце аховы.

## Лад жыцця

З радасцю гляджу на маладых людзей, якія на роварах спрабуюць цікавыя фігуры зрабіць. Учора малады тата вучыў дзіця на роліках катацца. У таго не атрымлівалася, бацька папрасіў мяне павучыць. Не так і проста навучыцца.

Часам чую, што мне ў след кажуць: "О, ужо гэты дзед зноў паехаў". Я не крыўдую, але няўжо не зразумела, што клапаціцца пра здароўе, рухацца – гэта натуральна, калі хочаш жыць?

Са страўніка зрабілі сметніцу. "Хуткасупы" я называю хуткаязвамі. Ты што, нармальны суп сабе зварыць не можаш? Я разумею, цяпер чалавек спяшаецца. Я таксама спяшаюся. Звары каструлю супу, налію колькі трэба, падагрэю.

Мы ў паход на Нарач на пяць сутак хадзілі. Настаўнік казаў абуваць стары абутак, каб не намазоліў. Калі калгасную бульбу. Вучыў, як палаткі ставіць, як распальваць вогнішча, калі мокра, як арыентавацца. А цяпер што моладзь умее, калі камп'ютар забраць? Нават рэцэпты не памятаюць.

У мяне ёсць агарод, гэта ж проста шчасце – рухаешся, калі дагледаеш, і прадукты свае, чыстыя. Я закатаў варэнне з дзьмухаўцоў, шчаўе з крапівой, кампоты. Каліну стаўлю, кабачкі з алычой, салаты гатовыя – я ж ведаю, што ў слоіку.



## Сям'я

Першая жонка **Аня**, яе пахаваў. Цяпер жыву з **Ларысай**. Дачка Інна жыве ў Мінску, унучка другі клас закончыла. Таксама любіць ролікі. Сёлета купілі ўжо падлеткавы ровар ёй. Малайчынка.

Вось так я і жыву, уключаю музыку, насоўваю навушнікі і катаюся на роліках.

Зоя ХРУЦКАЯ.

Шмат фота на сайце

Rh.by

ШМАТБОР'Е

# Удзельнік: Больш думаеш пра “пацярпелы” манекен, чым пра ўласную бяспеку

МЯДЗЕЛ

**24 ліпеня. Моцны вецер рве палотнішчы сцягаў на беразе возера Мястра. Хвалі б'юць у бераг. Вецер разносіць словы з дынаміка кіраўніка Мінскага абласнога савета таварыства ратавання на водах Сяргея Паўлюкевіча: “Абласныя спаборніцтвы па выратавальнаму шматбор'ю аб'яўляю адкрытымі! Жадаю ўдзельнікам паспяховага старту і фінішу!”**

Наш нумар па жэрабю – 13. Паглядзім, як у нас з удачай. Ідзём на старт.

Першы этап. Выхад на выратавальнай лодцы (дыстанцыя 150 метраў). У 40 метрах ад берага буй, які трэба абысці з разваротам на 360 градусаў, праз 35 метраў другі. Побач з ім на хвалях падскоквае манекен пацярпелага. Да яго трэба падплысці, выцягнуць з вады, потым вярнуцца на бераг, вяслуючы адным вяслом. Вецер напорыста перашкаджае грабцу трымацца курса. Наш лепшы вынік – 7 хвілін 42 секунды.

Другі этап – падача выратавальнага круга. У нас ёсць час крыху адпачыць пасля веславання і падрыхтавацца. І тут вецер перашкаджае. Трэба кінуць круг на максімальную адлегласць, пры гэтым трапіць у створ 2,5 метры. Да круга прымацаваны 30-метровы лінь. Калі б не ён, прыйшлося б лавіць круг па ўсім беразе. Хлопцы выканалі гэтае заданне здавальняюча.

Наперадзе трэці этап – “плаванне 100 метраў з перашкодамі”. Тут канешне хлопцы сябе паказалі. **Юры Лаўрышчаў** праплыў з лепшым у гэты дзень вынікам – 56 секунд. Астатнія таксама выкладаліся па поўнай.

Задаволеныя чакаем апошняга этапу – буксіроўка манекена ўплаў 50 метраў. І тут вецер. Падчас буксіроўкі суддзі пільна глядзяць, каб хваля не накрывала галаву манекена, інакш штрафныя балы. Плыць прыходзіцца на спіне і больш думаць пра пацярпелы манекен, чым пра тое, каб самому не нахлёбацца вады. Але і тут у нас добры рэзультат.

Чакаем падвядзення вынікаў і адначасова назіраем за спаборніцтвамі прафесійных выратавальнікаў – выхад выратавальнага кацера па трывозе. Магутныя кацеры гулка падскокваюць на хвалях, плывучы да пацярпелага. За борт пайшоў вадалаз. Ідуць секунды на пошук на дне манекена. Вось над судзейскім кацерам паднялі белы сцяг – пацярпелага знайшлі і паднялі на борт. Кацер вяртаецца да прычала.

Даўно пераваліла за поўдзень. Чакаем вынікаў. І суддзяў можна зразумець: 23 каманды, сярод іх 16 дружыннікаў-выратавальнікаў, сем – прафесійных выратавальнікаў, 69 спартсменаў. Усіх трэба ацаніць, усіх трэба ўлічыць. Нарэшце гучыць каманда: “Удзельнікам спаборніцтваў пастроіцца для падвядзення вынікаў”.

Першае месца сярод каманд дружыннікаў-выратавальнікаў заняла каманда Слуцкай раённай арганізацыі таварыства ратавання на водах, другое – у мядзельскай, трэцяе – у маладзечанскай. Вось гэта да! Мы на трэцім месцы сярод 16 каманд. Першы раз удзельнічаем і трэцяе месца!

Сярод выратавальнікаў-прафесіяналаў першае месца ў Нарачанскай выратавальнай станцыі, другое ў каманды “Зубраня”, трэцяе – у Вілейкі.

Едзем дамоў. Гляджу ў люстэрка задняга віду на хлопцаў – спяць. Стомленыя, але задаволеныя, з усмешкамі на тварах.

**Аляксандр СЕМАШКЕВІЧ, кіраўнік Маладзечанскага таварыства ратавання на водах.**



Фота з архіва Аляксандра СЕМАШКЕВІЧА.

**На памяць хлопцы з нашай каманды: (злева направа) Юры Лаўрышаў, Максім Васільеў, Алег Вайшнаровіч, з дыпломам Аляксандр Семашкевіч фатаграфуюцца з бронзавымі медалямі.**

НАВІНЫ

## “У саперніка залятала практычна ўсё”. “Смаргонь” прайграла 1:6

СМАРГОНЬ

Два апошнія матчы ФК “Смаргонь” правяла з камандамі з лідзіруючай групы.

Адразу 22 ліпеня дома гуляла з магілёўскім “Дняпром”. Матч завяршыўся безгалявой нічыёй.

Наступным быў матч 26 ліпеня ў гасцях супраць ФК “Гарадзея”. Першы тайм завяршыўся ўнічыю 1:1. На гол гаспадароў смаргонцы адказалі трапным ударам **Аляксандра Тарлікоўскага**. Другі тайм для смаргонцаў ператварыўся ў кашмар: пяць прапушчаных галоў і канчатковы лік 6:1 на карысць “Гарадзеі”.

– У прынцыпе не магу сказаць, што каманда гуляла дрэнна. Але, на жаль, бываюць такія гульні як сёння, калі ў саперніка залятае практычна ўсё. У нас па-ранейшаму ёсць праблемы са стварэннем і рэалізацыяй момантаў, – прыводзіць словы галоўнага трэнера “Смаргоні” **Мікалая Рындзюка** афіцыйны сайт клуба.

Некалькі няўдалых гульняў – і “Смаргонь” ужо на восьмым месцы.

## Маладзечанцы накалацілі пяць галоў “Асіповічам”

МАЛАДЗЕЧНА

Пасля вялікага перапынку працягнуліся гульні чэмпіяната краіны па футболе ў другой лізе. Першы матч другога кругу прынёс “Маладзечна-ДЮСШ-4” буйную перамогу.

Дома маладзечанская каманда 25 ліпеня гуляла з ФК “Асіповічы”.

Усе галы гледачы пабачылі ў другім тайме. Прычым, першымі напачатку тайма вызначыліся госці. А потым маладзечанцы забілі пяць галоў запар. Галы на рахунку **Мікіты Харко**, **Паўла Майсяёнка**, **Прохара Новікава**, а **Ігар Талькоўскі** вызначыўся двойчы. Вынік сустрэчы: 5:1.

– Варта адзначыць велізарную колькасць галявых момантаў, як у першым тайме, так і ў другім. З той толькі розніцай, што ў першым тайме ні адзін з іх мы не змаглі рэалізаваць, – кажа маладзечанскі заўзятар **Дзмітры Рухлевіч**. – У перапынку трэнер правёў аж тры замены. Як паказала гульня, яны казаліся ўдалымі: тры галы забілі гульцы, якія выйшлі на замену. Адзначу, што шэраг асноўных нашых гульцоў прапускалі гэты матч, хто з-за перабору жоўтых картак, а хто з-за траўмы. Але вынік паказвае, што ў нашай каманды доўгая і эфектыўная лава гульцоў.

Маладзечанцы па-ранейшаму займаюць першае месца ў сваёй групе. Адрыў ад “Вікторыі”, якая ідзе другой, складае тры ачкі.

## Маладзечанцы заваявалі Кубак вобласці

МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечне 26 ліпеня адбыўся фінал Кубка Мінскай вобласці па футболе сярод ветэранаў. На гарадскім стадыёне сустрэліся каманды Маладзечанскага і Старадарожскага раёнаў. Дагэтуль маладзечанцы ў чвэрцьфінале перамаглі барысаўчан (вырашылася ўсё ў серыі пенальці). А паўфінале абыгралі 4:2 каманду Дзяржынскага раёна.

Фінальны матч закончыўся 3:0 на карысць маладзечанцаў. Прычым, забілі ўсе галы ўжо да 15 хвіліны першага тайма. Вызначыліся **Вышынскі, Вяжэвіч** і **Галубко**.

– Першы тайм быў больш насычаны на небяспечныя моманты. У другім жа было відаць, што каманды прытаміліся, – дзеліцца **Дзмітры Рухлевіч**. – Некалькі разоў выдатна згуляў наш галкіпер. Тэмп гульні быў невысокі, заўзятай барацьбы за мяч не было. Але ў цэлым гульня спадабалася, было цікава паглядзець на славутых гульцоў у дзеянні.

## “Вілія” і “Забудова-Буд” разгромна прайграюць

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

“Вілія” з Вілейкі, якая дзевяць тураў ішла без паражэнняў у чэмпіянаце вобласці па футболе, прайграла трэці раз запар. Ды як: 0:6. Разграміў віляйчан у гасцях 26 ліпеня клуб “Фалько” з Дзяржынска. У ліпені гэта ўжо другі матч, у якім віляйчане прапускаюць шэсць галоў, а самі не забіваюць.

А “Забудова-Буд” “пераўзышла” і віляйчан. Таксама ў гасцях прайграла “Неман-Агра” з лікам 0:8.

Толькі ДЮСШ-4 з Маладзечна падтрымала рэнаме каманд рэгіёна. Дома маладзечанцы абыгралі 3:0 “Зорку” з Пухавіцкага раёна. Галы на рахунку **Ігара Талькоўскага**, **Дзмітрыя Касцюка** і **Сяргея Лавора.**

Па-ранейшым ДЮСШ-4 займае трэцяе месца. “Вілія” апусцілася на сёмае, каманда з Чысці – на дзясятае месца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ФУТБОЛ

# Самы брутальны варатар 90-х: як маральна забіць саперніка адной рукой

*Працяг. Пачатак у №30.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Самы брутальны варатар 90-х гадоў Мікалай Абрамовіч гуляў тады, калі футбалісты папросту маглі знікнуць на пару тыдняў, здымаўся ў двух серыялах і сядзеў на хіміі.**

Становішся ў кут варот і чакаеш. Пенальціст думае, ты, дурань, спецыяльна вызваліў кут, каб скокнуць у іншы, і б'е ў тваім напрамку. Яшын проста заставаўся на месцы і атрымліваў мяч прама ў рукі. Я чытаў пра гэта і ў хроніках бачыў.

– Малайчына. Ведаеш, Сяргей Уладзіміравіч усяго адзін раз падняў на мяне голас. У нас тады гуляў **Ігар Палыч Бялоў**. Зараз у федэрацыі працуе. Выконваў апошняга абаронцу. Мы побач гулялі. Вельмі добра кантактавалі. Ён мужык роўны, прыемны. І вось праводзілі перадматчавую трэніроўку. Раніца, поле ледзь прымерзлае, таму ў мяне нага паехала, калі мяч лавіў. У выніку ўляцеў у Бялова. Так ўляцеў, што ў яго адразу галенастоп пачаў распухаў да нервальных памераў. А гульня нейкая суперважная. Ігар Палыч планаваўся ў старце. Так Бароўскі ад прыкрасці нават голас павысіў. Тыпу, што ты нарабіў. Першы і адзіны раз за напісаў мне за час нашай працы.

**– Ваш “Металург” ў БССР быў чымсьці накшталт БАТЭ ў Беларусі.–** У 1991 годзе мы выйгралі ўсе, што маглі. Кубак БССР, чэмпіянат БССР, Кубак СССР сярод калектываў фізкультуры. На фінал Кубка СССР сярод калектываў фізкультуры паляцелі ў Баку. Каманда суперніка называлася “Бахчыбарды” або тыпу таго.

На Кубак Бароўскі заўсёды ставіў мяне. У чэмпіянаце гулялі па матчу з **Андрэем Буглакам**. Мяняліся. І вось пачалося.

**Мікіта МЕЛКАЗЁРАЎ, by.tribuna.com**

**Працяг будзе.**

КОНКУРС

# Білеты на фестываль "Дружба" выйграў маладзечанец Аляксандр Казлоў

МАЛАДЗЕЧНА

**У сераду, 29 ліпеня, "Рэгіянальная газета" разыграла два білеты на самы музычны і самы цёплы фестываль гэтага лета – "Дружба".**

По ўмовах конкурсу, які мы правялі ў інтэрнэт-суполках газеты, удзельнікі павінны былі падзяліцца тым, чаму менавіта яны павінны ехаць на фестываль, пры гэтым матывацыя (абавязкова напісаная на беларускай мове) акажацца самай шчырай і самай праўдзівай.

Сярод іншых былі каментары пра тое, што нехта даўно марыў, нехта проста хоча з'ездзіць, таму што даўно не выязджаў з Маладзечна.

Але пераможцам рэдакцыя газеты адзінагалосна выбрала падпісанта з Маладзечна **Аляксандра Казлова**.

На пытанне, чаму менавіта ён павінен трапіць на фестываль, Аляксандр адказаў:

– На фестываль павінен ехаць чалавек, які зможа ў поўнай меры адчуць атмасферу свята. Той, хто ведае рэпертуар гуртоў, якія будуць выступаць на свяце, і гатовы падпяваць ім на ўсю моц. Той, хто будзе танцаваць усю ноч, той, каго не спужаюць камары або дождж. Той, хто ўжо спакаваў палаткі і купіў ракеткі для бадмінтона. Адным словам – на фестываль еду Я!

Фестываль пройдзе цягам двух дзён, 1 і 2 жніўня.

На двух сцэнах опэнэйра выступяць "J-Морс", "Трубяцкой", "Серебряная Свадьба", "Крама" і іншыя. Другі штогадовы фестываль пройдзе ў 35 кіламетрах ад Мінска, у цэнтры экалагічнага турызму "Станькава". Ён месціцца непадалёк ад Дзяржынска. Акрамя фестывальнай пляцоўкі там ёсць заасад, зялёная зона і музейны комплекс.

Апроч канцэртаў наведнікаў фэсту чакаюць арт-кірмаш, атракцыёны для дзяцей, спартыўныя спаборніцтвы, летнія гульні, конкурсы і многае іншае.

Білеты на "Дружба Festival" можна набыць на сайтах білетных аператараў. Іх цана з набліжэннем падзеі будзе расці.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота vk.com.

**Пераможца конкурсу ад "Рэгіянальнай газеты" – Аляксандр Казлоў.**

## Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Экспрэс-апытанне: ці падманвалі вас прадаўцы?**

– Ужо даўно ўсё зразумелі "сакрэт" нізкіх коштаў на рынку. Одмінусуйце 200 грамаў ад кілаграма, плюс пару падгніўшых пладоў вам віртуозна падкінуць "прафесіяналы", вось і палічыце, у колькі абыйдуцца тыя ж памідоры! А паспрабуйце пашукаць праўды – абнясуць так, што пачнеш сумнявацца, хто тут разумны, хто дурань. ***Алена Чарнецкая***

**У Маладзечне чацвёра хуліганаў за вечар збілі дзевяцярых гараджан**

– Вельмі верагодна, што гэта тыя вылюдкі, якія і майго сына збілі ў раёне вул. Будаўнікоў да паўсмерці і схаваліся. Іх некалькі чалавек – 3-4. ***Раіса***

**Палова беларусаў зарабляе менш за $315, палова – больш**

– Беларусь. 2015. Сустракаюцца два кіраўнікі прадпрыемстваў. – Ты сваім зарплату яшчэ плаціш? – Не, ужо не плачу. – І я не плачу. А твае работнікі на працу ходзяць? – Ходзяць. – І мае ходзяць. Я вось думаю, можа ўваход платным зрабіць? Уваход зрабілі платным. Прайшоў тыдзень, дырэктары зноў размаўляюць: – Ну як твае, ходзяць на працу? – Ходзяць, толькі эканоміць сталі ... – Як? – Ды яны ў панядзелак прыходзяць, а ў пятніцу – сыходзяць ... ***NPraw***

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | 5 | 2 | | 7 |
| | | | 7 | | 6 | | 1 | |
| | | | | | 8 | | 3 | |
| 5 | | | 9 | | | 8 | | |
| 8 | | | | 6 | | | | 4 |
| | | 3 | | | 7 | | | 6 |
| | 8 | | 2 | | | | | |
| | 9 | | 5 | | 1 | | | |
| 4 | | 5 | 6 | | | | | 2 |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, дзіцячы "**Какоша – маленькі дракон**", 3D (Германія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
1, 2 жніўня – у 13:00
4 жніўня – у 16:50
Цана білета: 15 000 рублёў

Дэтэктыў, трылер, фантастыка "**Па-за сабой**" (ЗША, 2015, пасля 16 год)
31 ліпеня – у 19:40
2 жніўня – у 21:30
4 жніўня – у 21:00
5 жніўня – у 18:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, фантастыка, камедыя "**Пікселі**", 3D (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
31 ліпеня – у 17:20 (цана білета: 55 000 рублёў)
1, 2 жніўня – у 15:00
1 жніўня – у 19:40
2 жніўня – у 19:10
3, 4 жніўня – у 18:40
5 жніўня – у 16:20 (цана білета: 45 000 рублёў)
6 жніўня – у 16:40

Камедыя "**Антураж**" (ЗША, 2015, пасля 18 год)
1 жніўня – у 17:30 (цана білета: 45 000 рублёў)
1 жніўня – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
3 жніўня – у 21:00 (цана білета: 45 000 рублёў)

Прэм'ера! Трылеры, жахі "**Прыбраць з сяброў**" (Германія, Расія, 2015, пасля 18 год)
31 ліпеня– у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
2 жніўня – у 17:20 (цана білета: 45 000 рублёў)
5 жніўня – у 21:00

Прэм'ера! Прыгоды, баявік, трылер "**Місія невыканальная: Племя ізгояў**" (ЗША, 2015, пасля 16 год)
6 жніўня – у 19:00
6 жніўня – у 21:40
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Самыя праўдзівыя гісторыі**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
31 ліпеня, 2 жніўня – у 16:00
1 жніўня – у 14:00
5 жніўня – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Дзінамама**" (ЗША, Паўднёвая Карэя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
1 жніўня – у 16:00 (цана білета: 20 000 рублёў)
6 жніўня – у 16:00 (цана білета: 15 000 рублёў)

Анімацыя "**Індыкі: Назад у будучыню**" (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
2 жніўня – у 14:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, фэнтэзі "**7-ы гном**" (Германія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
3 жніўня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі, казка "**Таямніца чатырох прынцэс**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
4 жніўня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя "**Дабл трабл**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
31 ліпеня – у 21:00
1 жніўня – у 19:00
2 жніўня – у 18:00
3 жніўня – у 20:00
5 жніўня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Дэтэктыў, трылер, жахі "**Пакт 2**" (ЗША, 2014, пасля 16 год)
31 ліпеня – у 19:00
1, 2, 6 жніўня – у 21:00
4 жніўня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Кінодзяцінства: Машыны казкі. Канёк-гарбунок у гасцях у казачніцы**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
24 ліпеня – у 14:30
25 ліпеня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Драма "**Белы бог**" (Венгрыя, з 18 год)
24 ліпеня – у 18:00
25 ліпеня – у 17:30
26 ліпеня – у 20:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Меладрама "**Яшчэ адзін год**" (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
24 ліпеня – у 20:30
25 ліпеня – у 20:00
26 ліпеня – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Болт і Бліп спяшаюцца на дапамогу**" (Канада, без узроставых абмежаванняў)
26 ліпеня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя "**Захавальнік месяца**" (3D, Францыя без узроставых абмежаванняў)
24 ліпеня – у 14:00
25 ліпеня – у 14:30
26 ліпеня – у 12:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Чалавек-мурашка**" (3D, ЗША, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
24 ліпеня – у 18:30
25 ліпеня – у 17:00 і 21:30
26 ліпеня – у 16:30 і 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Жахі, трылер "**Убраць з сяброў**" (2D, ЗША, 2015, з 18 год)
24 ліпеня – у 21:00
25 ліпеня – у 19:30
26 ліпеня – у 19:00
Цана білета: 45 000

Анімацыя "**Пінгвіня Пararo: Вялікія гонкі**" (3D, Прыгоды Паўднёвая Карэя, Кітай без узроставых абмежаванняў)
25 ліпеня – у 14:00
26 ліпеня – у 14:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

ГАРАСКОП
31 ЛІПЕНЯ - 6 ЖНІЎНЯ

**Авен.** Разлічваць на лёгкія поспехі не трэба, але якіх-ніякіх вынікаў можна дасягнуць. Вы атрымаеце адчувальны штуршок сваім справам, асабліва тым, якія вы выношвалі і не рашаліся пачаць.

**Цялец.** Не расказвайце свае тайны навакольным, бо вашы словы могуць няправільна растлумачыць. Вы пакорыце ўсіх вострым розумам, неардынарным мысленнем, пачуццём гумару.

**Блізняты.** Калі не былі ў адпачынку, то збірайцеся. А калі ўжо адпачнулі, то зможаце вырашыць усе прафесійныя пытанні. Праца будзе прыносіць асалоду. Надзвычай спрыяльна складуцца адносіны са сваякамі, сябрамі, магчымы новыя знаёмствы.

**Рак.** Крыніцай натхнення стане для вас любімая работа. Нават калі яна забярэ шмат сіл і часу, затое падорыць маральнае задавальненне і добрае матэрыяльнае ўзнагароджанне.

**Леў.** Будзьце да сябе больш паблажлівыя, не патрабуйце ад сябе шмат. Пры адстойванні сваіх інтарэсаў праявіце настойлівасць.

**Дзева.** Сітуацыя будзе складвацца не так, як вы жадаеце. Дачакайцеся лепшага часу, і ўсё атрымаецца.

**Шалі.** Ніколі не позна. Позна – гэта толькі апраўданне для таго, каб не спрабаваць. Дабіцца пастаўленай мэты можна ў любым узросце.

**Скарпіён.** Вы будзеце думаць, што з'яўляецеся прафесіяналам ва ўсіх сферах, і будзеце раздаваць парады па любым пытанні. Але варта ведаць, што ўсе разважанні неабходна пацвярджаць практыкай.

**Стралец.** Навучыцеся спраўляцца з хваляваннем і пастарайцеся ўвогуле пазбавіцца ад яго. Бо хваляванне адключае нашы мазгі, і вы проста не ў стане вырашыць сітуацыю, якая склалася.

**Казярог.** Складваецца незвычайнае размяшчэнне планет, што можа падарыць вам знаёмства з апекуном ці паклоннікам вашага таленту.

**Вадалей.** Рабіце сваю работу на "выдатна". Калі вы хочаце чагосьці дабіцца ў жыцці, вам прыйдзецца папрацаваць. Вядома, ёсць рэдкія выключэнні, але не спадзявайцеся на іх. Спадзявайцеся на сябе.

**Рыбы.** Будзьце актыўныя. Не чакайце, пакуль жыццё кіне вам костку. Вам можа не спадабацца яе смак.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасłаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**

● НАДВОР'Е

## 1 жніўня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 / +20 | | +14 / +18 | | +13 / +21 | | +16 / +23 | |
| | 742 | ↘ 4 | 744 | → 3 | 746 | ↑ 3 | 742 | ↘ 4 |
| Вільня | +14 / +17 | | +13 / +16 | | +14 / +19 | | +15 / +21 | |
| | 746 | → 6 | 752 | → 4 | 753 | ↗ 3 | 751 | → 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне.

Усход 5.25
Захад 21.12
Даўжыня дня 15.47

Усход 21.22
Захад 6.45
Квадра 3




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**НАРАЧ (КУПА)**

Мінімальная тэмпература +5,7 °C у 1983 годзе
Максімальная тэмпература +28,2 °C у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 17,2 мм у 2005 годзе
Назіранні за 25 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- У чатыры гадзіны раніцы на вуліцах горада можна сустрэць толькі тых людзей, якія ідуць займаць чаргу ў гарадскую паліклініку па талоны. "Рэгіянальная газета" высвятляла, ці могуць медыцынскія ўстановы абыходзіцца без іх і што рабіць тым, хто не можа ад чатырох раніцы дзяжурыць пад паліклінікай. Артыкул пра гэта чытайце праз тыдзень.

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Мужчына расказвае свайму суседу па дачы: "Я на мінулым тыдні пудзіла пастравіў, ды такое страшнае, што вароны вярнулі леташні ўраджай".

***

Аб'ява: "Пазнаёмлюся з актыўнай жанчынай. Коратка пра сябе – 30 сотак агарода..."

***

Дачнік у электрычцы:
– Вось у мяне вырас яблык. Паклаў на табурэтку – зламалася. Такі вялікі яблык быў.
– Гэта што. Я свой яблык на стол паклаў – развалілся.
– А мяне вырас яблык, так я яго паклаў на калёсы.
– І што зламаліся?
– Не, але вылез чарвяк і з'еў каня.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чаму для інвалідаў-кіроўцаў выдзяляюць асобныя месцы?



**Аляксандр Дрозд, выратавальнік:**
– Месцы для інвалідаў, прызначаныя для зручнасці такіх людзей. Аднак часта адбываецца, што на гэтых месцах ставяць машыны здаровыя людзі. А ўсё таму, што ім так зручна альбо не хочуць шукаць іншае месца.



**Дар'я Калачык, касір:**
– Месцы для інвалідаў створаныя для зручнасці гэтых людзей. Калі бачу, што здаровы чалавек ставіць машыну на месца, прызначанае для машыны інваліда, то магу зрабіць заўвагу. У нас грамадства такое – усе думаюць толькі пра сваю зручнасць, пра іншых людзей нячаста.



**Андрэй Скарупа, кіроўца:**
– Не звяртаў увагі, ці ставяць на месцы для кіроўцаў-інвалідаў свой транспарт іншыя людзі. Але калі б убачыў, то зрабіў бы заўвагу. Сам стаўлю машыну толькі ў дазволеным месцы. Кіроўцам трэба паважаць адзін аднаго, толькі тады будзе парадак на дарозе.



**Надзея Аўдзей, музейны работнік:**
– Гэтыя месцы створаныя для зручнасці кіроўцаў-інвалідаў. Аднак не заўсёды іншыя кіроўцы звяртаюць на гэта ўвагу, ставяць свае машыны. А ўсё таму, што адсутнічае этыка кіравання, і не толькі ў дачыненні да кіроўцаў-інвалідаў, але і пешаходаў таксама. На мой погляд, трэба ўвесці дадатковы час на навучанне ваджэнню.



**Аляксей Асонін, будаўнік:**
– Для інвалідаў больш важна, каб існавалі спецыялізаваныя медыцынскія цэнтры, якія будуць іх абслугоўваць. Я таксама перажыў два інсульты, але маю правы кіраваць машынай. Аднак не раблю гэтага, так спакайней, тым больш што хадзьба больш карысная.



**Юлія Лысёнак, спецыяліст па кадрах:**
– У горадзе ёсць людзі з абмежаванымі магчымасцямі, таму для іх зручнасці існуюць спецыяльныя месцы. Іншыя кіроўцы не павінны ставіць там свае машыны, аднак часта яны не выконваюць гэтае правіла. Калі заўважаю такія выпадкі, то раблю заўвагі кіроўцам.



**Наталля Коўчур, настаўніца:**
– Гэта зроблена для камфорту і зручнасці такіх людзей. І тым не менш некаторыя інваліды не хочуць нічым адрозніваца ад іншых людзей, стараюцца жыць, як усе, і гэта ў іх атрымліваецца. Выдатна, што многія людзі з падобнымі асаблівасцямі не лічаць сваё жыццё абмежаваным, а толькі больш складаным за жыццё іншых людзей.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 31 (1057) 31.07.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 999. Падпісана ў друк у 9.00 30.07.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.